# БЕЛАРУСКІ КАЛЕКЦЫЯНЕР

№20 Люты 2000г. Кошт свабодны




Партрэт работы мастака Вячкі Целеша. Рыга. 1987г.

Шаноўныя сябры! Гэты нумар прысвечаны беларускаму калекцыянеру спадару Міхасю Верацiле, з мястэчка Краснасельскі, Ваўкавыскага раёну. І цалкам складзены з матэрыялаў падрыхтаваных ім жа. Спадар Верацiла супрацоўнічае з нашай газетай літаральна з першых нумароў. Допісы яго заўжды цікавыя і захапляльныя. Калекцыянер ён featured рознабаковы, але асноўны накірунак яго калекцыянавання гэта нумізматыка і баністыка. Вось што ён сам піша пра сябе:

«Я - Казярог, нарадзіўся ў самым пачатку сумнавядомага 1937 года ў вёсцы Навасёлкі Ваўкавыскага р-на, Гарадзенскай вобласьці. Беларус. Бацька мой быў майстрам – «залатыя рукі», а маці - непісьменнай. Вось таму, відаць, я рана стаў пісаць: тварыць, рыфмаваць, маляваць. А ў дзесяць год стаў калекцыянерам. Стаў вымушана, бо аднойчы памяняў «трафейны» пісталет «вальтэр» на шапку розных грошай, з якімі трэба было яшчэ й разабрацца. Пакуль разбіраўся - стаў і нумізматам, і баністам. Пасля збіраў усё (за выключэньнем паравозаў, аўтамабіляў, зброі і абразоў), але пяшчотную дзіцячую любоў захаваў толькі да грошай. Грошы - мая слабасць! Я і камунізм не прыняў таму, што ён замахваўся пазбавіць мяне майго захаплення.

Жыве Беларусь і беларускія таляры!

Пажадаем спадару Верацiле здароўя, новых цікавых знаходак і пастаяннага папаўнення сваіх калекцыяў.

# Як шукаць скарбы

Галоўнае ў пошуках скарбаў – знайсці першую манету...

Жарты жартамі, а гэта сапраўды так - ... знайсці першую манету, а астатняе – ужо справа тэхнікі.

Дарэчы, будуючы прававую дзяржаву, мы павінны добра ўяўляць сабе і прававы бок скарбашукальніцтва.

У савецкім заканадаўстве была пэўная разбежка (дакладней працілегласць) у трактаванні пытання, каму належыць знойдзены ў зямлі скарб. У канстытуцыі было сказана, што ў СССР усе багацці: заводы, фабрыкі, дамы, палі, воды, зямля і нетры зямныя належаць народу. Нават у песнях спявалі: "І ўсё вакол калгаснае, і ўсё вакол маё". А пра скарбы "спявалі" зусім працілеглае: усе, што знойдзена ў зямлі, належыць дзяржаве. І хоць усе разумелі, што "дзяржава – гэта мы", але скарбы прыходзілася аддаваць чорту лысаму.

А што пра гэта казалі нашы продкі 400 год назад у Статуце Вялікага княства Літоўскага 1588 года? Тут нават быў спецыяльны артыкул (№ 30 у раздзеле 9 ), які гучаў так:

"Артыкул 30.

О найденью скарбу захованого в земли або в яком покладенью.

Уставуем: коли бы се трафило кому знайти в земли який скарб: гроши, серебро, золото або што иншое яко се потрафляеть находити, тогды если на своем грунте найдеть, маеть скарб быти, чий грунт, а если бы на чыим иншом знашол, тогда половицу маеть таму дати. На чией земли знашол, а половицу собе взяти. Так теж и на заставной земли наполы разделити мають. Ведь же хто бы ся ку такому найденью кладу знати не хотел, а тот, хто бы того искал, бралсе до присеги, тогды тая противная сторона, на ком нщуть, ближшая будеть от того отприсягнутися, же не нашол".

Тут, здаецца, усё зразумела: на сваей зямлі знайшоў – твой скарб; на чужой – падзяліся напалову з гаспадаром зямлі. І толькі апошні сказ трэба перакласці на сучасную мову больш дакладна.

"Аднак, калі хто не захацеў бы прызнацца ў знаходцы скарба, а ісцец патрабаваў бы падцвердзіць гэта прысягаю, тады той, працілеглы бок, які абвінавачваюць, першы будзе ад таго ачышчацца прысягаю, што скарбу не знайшоў."

Бачыце, як усё было проста і дакладна.

Цікава, што будзе сказана пра скарбашукальніцтва ў заканадаўстве Рэспублікі Беларусь?

***

Ах, скарбы!!! Скарбы!!!

Хто з нас у дзяцінстве не зачытаваўся кніжкамі пра падарожнікаў у экзатычныя краіны, пра піратаў і іх скарбы?!

"...Як разбушавалася мора! Як ашалелі хвалі! Як дзіка роў вецер! Карабель трашчаў; здавалася, што ён стогне пад магутнымі ўдарамі...

... калі б мы прадалі пяцьсот чорных нявольнікаў і тавары, якія здабылі ў крывавай бойцы з берберыйцамі, дык панабівалі бы ўсе кішэні золатам...

... Навошта мы ўзялі ахвяры з Лампедузы?..

... Раскаты грому раздаваліся адзін за другім у начной цемры, зліваючыся з выццем гінучых у трумах рабоў і страшэнным трэскам, якім адгукаўся карабель пры кожным удары агромістых хваляў аб ягоныя барты...

На гэтым востраве, што размясціўся паміж Афрыкай і Еўропай, і служыў быццам "нейтральнай тэрыторыяй" для хрысціян і мусульман, у цэнтры была глыбокая пячора. На адной са сцен пячоры вісела старадаўняя выява Святой Марыі з немаўляткам Хрыстом на руках. Каля працілеглай сцяны была магіла мусульманскай святой – марабу. Абедзве палавіны пячоры былі завалены рознымі таварамі.

Каля сцяны з выявай Багародзіцы ляжалі мяшкі з галетамі, цэлыя галовы сыру, жбаны з маслам, мяхі кавы, віно, грошы.

На працілеглым мусульманскім баку было зложана амаль тое ж самае і яшчэ скрынкі з турэцкім, арабскім і персіцкім адзеннем. Гэта былі ахвяры, пакінутыя прыхільнікамі абедзвюх рэлігій – экіпажамі еўрапейскіх і мусульманскіх караблеў. Іх пакінулі тут спецыяльна для збеглых рабоў, сваіх адзінаверцаў, якім удалося ўцячы з галер. Той, каму пашчасціла вызваліцца ад ланцугоў, кідаўся ў ваду і плыў да Лампедузы, знаходзіў пячору, поўную тавараў, і быў упэўнены, што пражыве да таго часу, калі да вострава прычаліць які-небудзь карабель з яго адзінаверцамі і забярэ яго.

Іспанскі пірат Алонса дэ Кантрэра, апавядаючы ў сваіх успамінах аб гэтым востраве, сцвярджае, што прыхільнікі абедзвюх рэлігійных догмаў паважалі звычай, які ўсталяваўся даўно і ніхто не асмельваўся нават падумаць аб тым, каб даткнуцца хоць якой дробязі з гэтых прынашэнняў. Кантрэра таксама гаворыць, што немагчыма нават пералічыць усе цуды, якія тварыла выява Багамацеры ў пячоры. "Ці не цуд, - казаў ен, - што свяцільнік каля Багамацеры гарэў заўседы: і днем, і ноччу, нават тады, калі на востраве не было ні душы?" Такім чынам, пакідаючы востраў, ніхто не рызыкаваў вынесці з пячоры нават шпільку.

І вось, блюзнерства, аб якім баяліся нават падумаць і хрысціяне, і мусульмане, утварыў ... Балтазар Коса.

... Грузіце ўсё на караблі, нічога не пакідайце!..

...Акрамя залатых і сярэбраных манет розных краін – дублонаў, рэалаў, скудо, канстанцінатаў, тарнэзі,цэхінаў, - Коса знаходзіў брыльянты і перлы, дарагое жаночае адзенне з шоўку, каштоўныя мужчынскія даспехі (каштоўныя таму, што большасць з іх была ўпрыгожана брыльянтамі. Пападаліся кальчугі, на якіх было да пяцісот перлаў, а таксама рубіны і сапфіры) і мантыі валадароў, на якіх налічвалі да дзевяцісот перлаў ... кашамі і вялізнымі скрынямі выносілі залатыя і сярэбраныя рэчы і дарагія сервізы...

... Вось аб чым успомніў цяпер забабонны Буанакорса...

– О! – спалохана ўскрыкнуў Коса. – Прабоіна!.. Хутчэй у лодку!

...Утраіх яны стараліся адпіхнуць лодку ад карабля. Лодку то ўзносіла на хрыбет хвалі, то кідала ўніз, і гэтыя ўзлеты і падзенні адчуваліся куды больш моцна, чым на караблі...

...Гігант грэб адной рукой, а другой не пераставаў хрысціцца пры кожнай успышцы маланкі, са страхам пазіраючы на тонучы карабель.

Раптам пачуўся страшэнны гул, які перакрыў усе астатнія гукі. Шум вады, што з выццём уварвалася ў разбіты карабель данесся да іх вушэй.

– Божа мой! – запрычытаў аднавокі гігант, дрыжучы ўсім целам і не перастаючы хрысціцца. – Настаў канец свету! Ратуй нас, Божа, і я назаўсёды кіну гэтае праклятае рамяство!.."

***

... На пустынным беразе забытага Богам і людзьмі вострава страшны аднавокі пірат Джон – Крывавая Рука, закопвае куфар залатых дукатаў і фларынаў, а праз тыдзень маракі з каралеўскага фрэгата злавілі Джона і павесілі, разам з ягонымі сябрамі, на рэях грот-мачты яго ж пірацкага карабля.

А скарб?

Скарб і сення ляжыць у пясочку на пустынным беразе забытага Богам і людзьмі вострава...

Дзе? Якога?

Вось з гэтага моманту, калі задасцё сабе гэтыя пытанні, вы становіцеся патэнцыяльным скарбашукальнікам. Але, прабачце, дзікуном-скарбашукальнікам... рабаўнікам... Так, так! Бо для скарбашукальніка скарб – гэта толькі грошы, багацце, матэрыяльны прыбытак (калі гэта золата і срэбра) і проста смецце (калі гэта нешта іншае).

А для навукі? Для навукі вельмі важна захаваць, ці хоць падрабязна апісаць, усе манеты скарба. Бо скарб – гэта здымак з грашовага абароту пэўнага часу. Сведка гісторыі. І часта прысутнасць адной манеты ў скарбе цалкам мяняе не толькі дацціроўку, але і , у пэўнай меры, яго значэнне...

А мы – калекцыянеры стаім недзе пасярэдзіне паміж скарбашукальнікамі і навукоўцамі. Нехта бліжэй да першых, нехта бліжэй да другіх, але пасярэдзіне. Мы і творчая праслойка, і амартызатар. А гэта так складана: рабіць добрую справу ПАСЯРЭДЗІНЕ, паміж дзвюма ваюючымі групоўкамі...

І аб'ект нашай калекцыі – манета – вельмі ёмісты і складаны гістарычны помнік. Калісьці на рынку яна супрацьстаяла тавару, адначасова і сама з'яўляючыся таварам. А цяпер яна толькі помнік гісторыі. А кожны помнік (як і чалавек) павінен мець "пашпарт", гісторыю ўтварэння і існавання, - "радавод".

Каштоўнасць асобнага прадмета ўзрастае ў комплексе з другімі прадметамі, а вырваны з гэтага комплекса губляе амаль усе, за выключэннем, можа, толькі аднаго – імя.

Але галоўнае ў шуканні скарбаў – знайсці першую манету...

Вядома, каб знайсці першую манету скарба трэба ведаць, як мінімум, дзе гэты скарб закапаны. А тут ужо існуюць пэўныя складанасці. Ад гэтага моманту пошук разгаліноўваецца ў двух напрамках: выпадковая знаходка і мэтанакіраваны, планавы пошук.

Для выпадковай знаходкі спецыяльных ведаў ня трэба. Ды і наогул абсалютна ніякіх ведаў не патрэбна. Гэта самы лёгкі спосаб пошуку скарбаў, тут нават дзіця справіцца. У жыцці так і бывае: найчасцей выпадковыя скарбы знаходзяць дзеці.

Для другога накірунку пошукаў патрэбны грунтоўныя веды ў галінах: металазнаўства, глебазнаўства, будаўніцтва, геаграфіі, гісторыі, нумізматыкі, метралогіі, гісторыі мастацтваў, мастацтвазнаўства, манетнай вытворчасці, гандлю, археалогіі, этнаграфіі, мовазнаўства, палеаграфіі, графалогіі, геральдыкі, картаграфіі, гісторыі шляхоў зносін і многіх іншых, а галоўнае , самае галоўнае – у ПСІХАЛОГІІ ЧАЛАВЕКА, бо

менавіта чалавек закопвае скарбы.

І яшчэ, каб шукаць скарбы трэба ведаць, што яны падзяляюцца на рэчавыя, грашовыя (манетныя) і змешаныя (рэчава-грашовыя). Я запрашаю вас у пошукі скарбаў грашовых і змешаных менавіта таму, што нас цікавяць толькі прадметы нашага хобі – манеты.

Але пры мэтанакіраваным скарбашукальніцтве ніяк не абыйсціся без "талісмана скарбашукальніка". Такі талісман можна зрабіць самому. Дакладна перапішыце ніжэй прыведзены тэкст талісмана на кавалачак тоўстай паперы альбо кардону памерам прыблізна 7 на 9 см. (паспрабуйце ўжыць іншыя матэрыялы: жалеза, каляровыя металы, шкло, дрэва). А далей паступайце як у тэксце.

*Талісман гэты я сам трымаў* у руках летам 1954 года пад Кіевам. Тады і перапісаў у запісную кніжку яго тэкст, пра знакі прыпынку не памятаю, можа паставіў і сам, каб неяк крыху ўпарадкаваць сэнс.

Была гэта прамавугольная металічная пласціна шэра-белага колеру (магчыма з волава) з пу-

АЩЕ КЛАДУ НУЖНА
ГЛАВА, ПОДОВАЕТ
ПУТАТЬ НА СЮ ГРІ-
ВНУ АДОВІ ВЛАСА
СЕДМІ ЛЮДСКІХЪ
ГОЛОВЪ,ВЪ ПОЛУН-
ОЩ ІДІ І ІЗРѢКАЯ
СЛОВА АДОВІ ЗАР-
ОІ ВЪ ЗЕМЛЮ,ПРІС-
НІСЯ ЧТО ДѢЛАТІ.

катымі літарамі тэксту. Толькі памеры яе адзначыць не згадаю. Памятую, што змяшчалася на далоні рукі.

Быццам бы рускі тэкст, але ўсе "і" з кропкамі. Можа перапісаў яго малаадукаваны ўкраінец, ці беларус, а можа і тут закладзены нейкі таемны сэнс.Другія асаблівасці талісмана, я думаю, чытач ужо заўважыў сам. Напрыклад, простую і ўскосную сувязь з Нячысцікам, і ...

І яшчэ адзін варыянт скарбашукальніцтва.

Напрыклад, садзячы дрэўца на сваёй зямлі вы выкапалі пабітыя "гаршкі", кавалкі кафлі з выявамі раслін і птушак, заржавелыя жалезныя прылады і маленькую сярэбраную манетку, на якой праглядваўся год 1520 і лацінскі надпіс. Гэта – комплекс знаходак. Але калі вас зацікавіла толькі манета, то вы ў рэшце рэшт даведаецеся, што гэта сярэбраны паўгрош польскага і беларускага караля Жыгімонта 1 Старога. Вось і ўсё.

А калі навуковец разглядае тыя самыя знаходкі ў комплексе, дык ен адразу адзначыць, што маленькі сярэбраны паўгрош дапамог датаваць і "гаршкі з пукатымі "брушкамі", і непаліваную кафлю з выявамі раслін і птушак, і ножык канкрэтнай формы, і чатырохгранныя каваныя цвікі з "асьмаковымі плешкамі" – першай чвэрцю 16 стагоддзя...

Такім чынам, дзякуючы адной датаванай знаходцы, усе астатнія знаходкі набылі свой пашпарт.

Дык вось, вы знайшлі паўгрош Жыгімонта 1. Але вы не проста садавод-агароднік, а яшчэ і калекцыянер-нумізмат, скарбашукальнік і ўжо крыху навуковец-даследчык. Дык і ладзьдзіце да сваёй знаходкі па навуковаму.

Не мітусіцеся!

*На месцы знаходкі манеты* ўткніце ў зямлю калочак, пры дапамозе компаса знайдзіце напрамак поўнач-поўдзень і правядзіце праз калочак гэты напрамак лініяй на зямлі. Перпендыкулярна яму правядзіце яшчэ адзін напрамак – усход-захад. Ва ўсе чатыры бакі ад калочка на лініях адкладзіце па 0.5 м. Па гэтых кропках пабудуйце квадрат (адзін метар квадратны) з калочкам у цэнтры. Гэта і будзе квадрат разведачнага шурфа. Разведачныя шурфы ў археалогіі дазваляюцца да двух метраў квадратных, большыя – гэта ўжо не шурфы, *а раскопкі. Памеры раскопак* - неабмежаваныя. Але на вядзенне раскопак трэба мець дазвол Акадэміі навук ("адкрыты ліст").

Каб не ўступаць у канфлікт з законам, мы павінны раз і назаўседы сказаць сабе: я самавольнымі раскопкамі не займаюся, а вяду толькі разведачную шурфоўку.

Вось і надышоў час разгледзець яшчэ адну дэталь.

Скарб, асабліва залаты, не дасца ў рукі чалавеку сквапнаму, злому – нядобраму. Калі вы дакладна не ведаеце добры вы чалавек ці нядобры, то і не трэба рызыкаваць. Не бярыцеся за рыдлёўку пакуль не прачытаеце загавор.

" Ты злата і ты срэбро, і ты дарагі камень,
У зямлі, у вадзе, пад жывым кустом,
Не бяжы, не плыві, не паўзі,
Дайся ўсе ў рукі раба Божага (імя).
Амінь."

Загавор чытайце павольна, не спяшайцеся. Выгаварвайце кожную літару. У канцы тры разы плюньце ўлева, тры разы перад сабою, тры разы ўправа і тры разы назад.

Вось цяпер можна брацца і за працу.

Памагай, Божа!

У вас атрымаўся квадрат 1м на 1м., у цэнтры якога была знойдзена манета. У гэтым квадраце здымайце ўсю зямлю пластамі па 10-15 см. Прасейвайце яе на сіце, адбірайце ўсе знаходкі і складайце ў пакеты, падпісваючы нумар пласта. Буйныя камяні, ланцужок камянеў са слядамі чырвонай гліны альбо вапнавай рошчыны і цэглы, не зрушвайце з месца, - магчыма гэта рэшткі нейкай забудовы. Няхай іх даследуюць спецыялісты – археолагі. Калі знаходак вельмі многа, можна разбіць квадрат на чатыры меншыя (0.5м на 0.5 м). Пранумеруйце іх (1.2,3,4).

Зямлю прасейвайце да "мацерыка" - грунта, не кранутага гаспадарчай дзейнасцю чалавека (звычайна гэта жоўты пясок).

Археолагі кажуць: "раскапаць культурны пласт да мацерыка".




Цяпер намалюйце план шурфа і пазначце на плане знаходкі манет. Напрыклад: у квадраце № 1 не знойдзена ніводнай манеты, у квадраце № 2 – пяць манет, у квадраце № 3 – адна, а ў квадраце № 4 – сем манет.

А цяпер вы і без цыганкі скажаце, што працягваць пошукі скарба трэба на ўсход ад першай манеты.

"Прырэжце" да першых чатырох (0.5м на 0.5 м) квадратаў яшчэ чатыры і працягвайце папластовую зачыстку да мацерыка.




Ізноў нанясіце на план знаходкі манет. Напрыклад атрымалася: кв. № 5 – тры манеты, кв. №6 – нуль, кв. №7 – пятнаццаць манет паасобку і маленькі керамічны посуд з трыма манетамі ў сярэдзіне, кв. №8 – адна манета.

Цяпер вы можаце зрабіць канчатковы вывад, што вы знайшлі поўны скарб, які складаўся з 36 манет у керамічным посудзе. Скарб быў расцягнуты, відавочна, плугам больш чым на 1 метр з паўднёвага ўсходу на паўночны захад.

Абавязкова захавайце посуд, у якім быў закапаны скарб. Гэта каштоўны датаваны (скарбам) помнік ганчарства.

Склад скарба, час захавання яго пакуль што невядомы. Вывучэнне скарба трэба прадоўжыць.

Спачатку абавязкова трэба памыць манеты ў чыстай вадзе ( ад зямлі і арганічных рэчываў), абсушыць і ўзважыць. Напрыклад: усе манеты важаць 49.4 грама. Пасля гэтага трэба ўстроіць манетам хімічнае мыцце.

Рэцэпт мыючага раствору для сярэбраных манет.

250 *грам сернай кіслаты* распусціць у 250 грам дыстыляванай (альбо кіпячонай) вады.

УВАГА! *Кіслату трэба ўліваць* тонкім струменьчыкам у ваду, а ні ў якім разе не наадварот!

Раствор трэба пераліць у бутэльку, добра закаркаваць і наклеіць этыкетку з тлумачальным надпісам. Але ў гэтым растворы яшчэ нельга мыць манеты – ён вельмі моцны.

Калі вам трэба памыць нейкую колькасць сярэбраных манет, вазьміце, напрыклад, 20 гр. раствору і распусціце яго у 20 гр. гарачай дыстыляванай вады. Колькасць раствору рэгулюйце ў залежнасці ад колькасці манет, якія вам трэба памыць. У гарачым растворы рэакцыя ачышчэння манеты ад вокіслаў (аксідаў) ідзе хутчэй. А вытрымліваючы такую паслядоўнасць у прыгатаванні раствору, вы кожны раз будзеце мыць манеты ў гарачым растворы без падагрэва самага раствору. Мыць манеты трэба ў фарфоравым (альбо з тэрмастойкага шкла) посудзе. Манеты апускайце ў раствор не ўсе зараз, а па 1-2 штукі. Час ад часу манеты вынімайце, працірайце ў пальцах пад струменьчыкам вады, кантралюйце, як ідзе ачыстка.

УВАГА! Старажытныя манеты не трэба ачышчаць да бляску, дастаткова ачысціць на столькі, каб можна было разглядзець усе выявы і прачытаць усе надпісы.

# Кубак-жарт

Ці задумваліся вы над канцоўкамі многіх славянскіх казак: "і я там быў, мед, піва піў, па вусах цякло, а ў рот не пападала?" Як жа яны так пілі, што ў рот не пападала? Можа жарт які?

Пад час шурфоўкі ў парку былога маёнтка Алендзекіх у вёсцы Мачульна Ваўкавыскага раёна я знайшоў некалькі дробных фрагментаў керамікі. Цеста чарапкоў белае з дамешкамі дробных зярнят кварцавага пяску гаварыла аб тым, што посуд не мясцовага вырабу – "імпартаваны", магчыма, з Польшчы, альбо з Заходняй Еўропы. Паліва ў асноўным ясна-зялёная з ружова-карычневымі плямамі.Чарапок з вонку размаляваны ў "елачку". Але не гэта зацікавіла мяне, а канструкцыя венчыка...

Калі ўсе сем кавалачкаў керамікі былі склеены, - вырысавалася форма цыліндрычнага посуду з вертыкальнымі шчылінамі, прарэзанымі крыху ніжэй закругленага тоўстага венчыка.

Што гэта за посуд? Першае, што прыйшло на думку – сьвяцільнік, кубкападобны падсвечнік з высокімі берагамі



(каб не задувала ветрам агеньчык), а шчыліны – каб святло ішло не толькі ўгору, але і ва ўсе бакі.

Але колькі святла пройдзе праз вузкія шчыліны?.. А нельга ж дапусьціць, што ва ўтылітарных пытаннях нашыя продкі былі менш дасведчанымі, чым мы!

І толькі цяпер я ўспомніў пра кніжку Якава Перальмана "Займальная фізіка". Кінуўся ў бібліятэку.

Мне так хацелася хутчэй праверыць сваю здагадку, што я забыўся пра адну дробязь: бібліятэка ў нас працуе толькі да дзесяці гадзін вечара...

Наступны дзень цягнуўся як вяроўка.

Але вось патрэбная кніжка ўжо ў мяне ў руках. Толькі чамусьці цяпер яна ў двух тамах (у гады майго дзяцінства змяшчалася ў адным томе). А вось і патрэбнае апавяданне "Падманны посуд".

"У старажытнасці – у 17 і 18 стагоддзях магнаты забаўляліся такой павучальнай цацкай: выраблялі кубак ( альбо збанок), у верхняй частцы якога рабіліся вялікія ўзорныя шчыліны.Такі кубак, наліты вінам, прапаноўвалі беднаму госцю, з якога можна было беспакарана пасмяяцца. Як піць з яго? Нахіляць нельга: віно пальецца праз мноства скразных адтулін, а ў рот не пападзе ні кроплі..."

Але хто ведаў сакрэт такіх кубкаў, той затыкаў пальцам



«Кубак-жарт» - рэканструкцыя аўтара

патаемную дзірачку і , не нахіляючы кубак, браў у рот носік (альбо край кубка з дзірачкай) і высмоктваў, не адрываючыся, спачатку паветра, а потым і віно. Яно па каналу ў ручцы падымалася да канала ў венчыку кубка і трапляла ў рот дасведчанага госця.

Крыху пазней такія кубкі выраблялі і беларускія ганчары з мясцовых глін.

*Міхась Вераціла.*

# Салодкая калекцыя

Шаноўны чытач, каштавалі вы калі царскую карамельку? І я таксама. Таму давайце хоць паглядзім на фанцік ад яе. Смачная, відаць, была карамелька /бо й фанцікі паабгрызалі/. Выраблялася яна амаль сто гадоў назад.






Але "затое", мы елі гомельскую карамельку. Во!

Спачатку "Карамель Гомельская" кандытарскага камбіната "Спартак" выпускалася "без якасці", але неўзабаве зьвілася са "Знакам якасці"/ мода пайшла на якасьці/. Я, прызнаюся, еў і тыя, і другія й усяроўна застаўся жывым, так што цяжка сказаць што мне даў «Знак якасьці» /а што даў ён прадпрыемству, - ведаеце вы і без мяне/.

Вельмі мала на Беларусі выпускалася цукерак /і карамелек/ з чыста беларускімі назвамі, але былі і такія, напрыклад: "Залаты вулей", альбо наогул з цудоўнай назвай – "Ласунак"... Былі й "двуязычныя" цукеркі /відаць для розных "Зьмеяў Гаўрылавічаў"/, напрыклад: "Цукеркі Мінскія" - "Конфеты Минские" /гэта з малюнкам вежаў, што на прывакзальнай плошчы/, але потым "цукеркі Мінскія" былі "забітыя" чорным арнаментам з літараў «Х» у кружочку /гэта з малюнкам Дзяржаўнага тэатра/. Праўда, дзеці працягвалі есці і «конфеты», але, відаць, ад гэтага з іх выраслі ўжо не беларусы, а нелюдзі, якія закрылі ўсе беларускія школы і пачалі "забіваць" чорнымі дубінкамі застаўшыхся беларусаў.

А хочаце даведацца да чаго прывяло закрыццё беларускіх школаў? да таго, што сёньня ніхто ўжо не ведае беларускай мовы /акрамя толькі некалькіх беларускіх пісьменнікаў/. Вы хочаце сказаць, што гэта не так? Вось вам "салодкі" прыклад з газэты Ірыны Халіп, той, якая "дала па мордзе" аднаму з нелюдзяў.

"СП "КАНДИ" ВЫВЕЛО НОВУЮ ПОРОДУ. Кирилл Битый.

Как говорят, встречают по упаковке, провожают - по начинке. Если сле-



*Працяг на стар. 6*










*Пачатак на стар. 5*

довать этой мудрости, то стоит предостеречь всех потребителей продукции СП "Канди". Впрочем, взгляните на фантик




от конфеты.

Всеобщее стремление населения превратить "трасянку" в единственный официальный и всеми поэтому понимаемый язык Беларуси нашло ярчайшую поддержку в лице грамотеев из этого очень совместного предприятия. Сделать три ошибки в двух словах - это действительно надо уметь! Впечатление такое, что учредителями СП выступили с одной стороны белорусы -выпускники сельхозакадемии, а с другой - представители какого-нибудь Габона, имеющие вообще смутное представление о славянских языках в целом. С чем работников СП, наконец-то объятых всеобщей грамотностью, и смею поздравить. А также работников типографии, растиражировавших фантик.

Кстати, в этой серии конфет есть и изделие "Коровка молочная", что вызывает смех не меньший. Ибо, следуя логике СП "Канди", вполне вероятен выброс на рынок конфет "Коровка мясная", "Коровка овощная" и т.д.



Дети!, Не ешьте «эгзотику»! Потому что если на обертке - чорт знает что, то нет никакой уверенности в том, что само содержимое вообще можно есть без последствий для здоровья.»

БАЦЬКІ, НЕ ЗАБАРАНЯЙЦЕ СВАІМ ДЗЕЦЯМ ВУЧЫЦЬ БЕЛАРУСКУЮ МОВУ! /і чужым таксама!/.

***Міхась Вераціла***

---

**ПАВАЖАНАЕ СПАДАРСТВА !**

«Жыве Беларуская нумізматыка» рыхтавалася як выступленьне на навуковай канферэнцыі ў Менску: «Беларуская археалогія. Час, помнікі, людзі /памяці рэпрэсаваных археолагаў/» у кастрычніку 1993 г. Выступіць не атрымалася, а праблема так і засталася. Прашу рэдакцыю «Б.К.» надрукаваць яе на сваіх старонках.

***Аўтар***

# Жыве Беларуская нумізматыка !

Сваё выступленьне я хачу пачаць з патэтычнай /але не рытарычнай/ заявы: Беларусь найадметнейшая, найутульнейшая й найбагацейшая краіна сьвету! І таму ў яе такі трагічны лёс.

НАЙАДМЕТНЕЙШАЯ - таму, што адзіная дзяржава з Саюзу, якая аднавіла дзейнасьць паўсюдна забароненай і праклятай пухліны стагозьдзя - КПСС /КПБ/.

НАЙУТУЛЬНЕЙШАЯ - таму, што процьма вайсковай і партыйнай эліты СССР на пенсіённае жыхарства пераязджала й пераязджае на Беларусь. /Гэта й вобразна ахрышчаныя спадаром Дземянцеем - «дэпутаты-інваліды»./ Мала таго, што яны самыя пераязджаюць сюды, яны яшчэ й патрабуюць абвясьціць усю СУВЭРЭННУЮ, НЕЗАЛЕЖНУЮ ДЗЯРЖАВУ БЕЛАРУСЬ рускамоўным прыдаткам Расіі.

Беларусь стала курортнай Рыўерай партакратаў.

НАЙБАГАЦЕЙШАЯ - таму, што нягледзячы на адносна сьціплыя прыродныя рэсурсы, відаць для роўнавагі, Бог надзяліў Беларусь багацейшым, працавіцейшым і сумленьнешнім этнасам.

Падараваўшы сьвету сваіх каралёў, вялікіх князёў, геніяльных вайскоўцаў, прэзыдэнтаў Акадэмій навук, таленавіцейшых пісьменьнікаў, паэтаў, музыкаў, вынаходнікаў, эканамістаў, вучоных, мастакоў, рамесьнікаў і проста «освоителей» цаліны, тайгі, Амура, Калымы й іншых, -

для сябе паклікалі чужых правіцеляў, чужых начальнікаў, чужую партыю й чужую мову.

Цытуючы самаго сябе, скажу: багаты й цярплівы народ. Дзівакаваты народ!

Гэта была прыказка. Казка-быль - далей.

Калі доўгія стагодзьдзі існавалі самастойныя «беларускія» княствы, калі існавала вялікая эўрапейская дзяржава / Вялікае княства Літоўскае/ на базе гістарычнай беларускай тэрыторыі, на базе гістарычнай беларускай /што грунтоўна даказаў Мікола Ермаловіч/ народнасьці, на базе гістарычнай беларускай мовы й пісьменнасьці; існавала доўгі час самастойна й у саюзе зь іншымі эўрапейскімі дзяржавамі й народамі /Рэч Паспалітая, СССР/, дык пара ўжо на поўным сур'ёзе, не баючыся «што падумае вялікі брат і суседзі» казаць, пісаць і прапагандаваць не толькі беларускіх магнатаў , але й

- беларускую дзяржаўнасьць,

- Вялікі беларускі статут,

- беларускіх князёў,

- беларускіх каралёў,

- беларускую эканамічную моц,

- беларускую навуку й культуру на сусьветным узроўні,

- беларускую этнаграфію,

- беларускую філатэлію й філакартыю,

- беларускую, трывалую, адметную грашовую сістэму,

- БЕЛАРУСКУЮ НУМІЗМАТЫКУ.

А йнакш атрымоўваецца парадокс: ёсьць манэты беларускай дзяржавы /важкія, з высокапробнага срэбра/, якія не толькі свабодна абарачаюцца на тэрыторыі ВКЛ, жывячы яе эканамічнае жыцьцё й разьвіцьцё, але й з задавальненьнем «імпарціруюцца» суседнімі дзяржавамі;

Беларускі грош 1535-1936 гадоў упершыню ў сусветнай манэтнай практыцы нясе на сабе не толькі год, але й месяц чаканкі.

Беларускія манэты на працягу ўсяго панаваньня Жыгімонта ІІ Аўгуста /1545-1572/ былі адзіным сродкам грашовага абарачэньня ў Польшчы. Польскія грошы ў гэты перыяд увогуле не чаканіліся.

А так званыя «першыя польскія таляры», выпушчаныя на Віленскім манэтным двары ў 1564-1565 гадах, зьяўляюцца першымі беларускімі талярамі. А ў 1564 годзе былі выпушчаны й першыя беларускія паўталяры.

Я ўжо не кажу пра адметную разнастайнасьць наміналаў беларускіх манэт /грашовікі, двухграшовікі, трохграшовікі, чатырохграшовікі, шасьціграшовікі.../

Першае, прынамсі ў Эўропе, контрамаркіраваньне чужой манэты для патрэб нацыянальнай грашовай сістэмы адбылося на Беларусі ў 1564 годзе на патагонах і паўпатагонах Гішпаніі.

Беларуская /Віленская/ «мынца» вядома, як шырокай чаканкай залатых дукатаў, так і выпускам вялікіх залатых манэт - партугалаў /10 дукатаў/.- 1639г.

З XVI стагодзьдзя існуе беларуская дзесяцічная манэтная сістэма /якую, дарэчы, рускі цар Пётр І пераняў і ўвёў у Расіі толькі ў пачатку XVIII стагодзьдзя, ён жа пераняў з нашай грашовай сістэмы й канкрэтную манэту - «рускі тымф»/...

Нарэшце, на Беларусі ёсьць традыцыйныя нацыянальныя назовы

грошай /таляр, грош, пенязь і йншыя/, а мы працягваем карыстацца «рублём». Рубель для беларусаў - пройдзены гістарычны этап /і пройдзены ўжо двойчы: ў XIII і ў XX стагодзьдзях/, дык навошта мы яго пацягнем з сабою яшчэ й у незалежнае XXI стагодзьдзе?.. Усё гэта ў нас ёсьць, а беларускай нумізматыкі няма !

Нешта, спрабаваў зрабіць наш шаноўны й адзіны беларускі нумізмат - Валянцін Рабцэвіч, але й ён пабаяўся адкрыта, на роднай мове заявіць пра беларускую нумізматыку, а раз-

*Працяг на стар. 7*

*Пачатак на стар. 6*

глядаў яе як нумізматыку Расіі, Польшчы й іншых на тэрыторыі Беларусі.

Карыстаючыся магчымасьцю выступіць перад такой прадстаўнічай аўдыторыяй, я хачу падзякаваць спадарам Алесю Сярожкіну, Уладзіміру Цярохіну і ўсім супрацоўнікам газэты за «нараджэньне» «Беларускага калекцыянэра», які ўжо спора зрабіў для прапаганды й беларускай нумізматыкі.

А што нумізматыка мае непасрэднае дачыненьне не толькі да гісторыі, эканомікі, мастацтваў, але й да археалогіі, я думаю, ніхто з прысутных тут навукоўцаў аспрэчваць не будзе.

Жыве Беларуская нумізматыка !

Жыве Беларусь !

***Міхась Вераціла***

# ПЕРШЫ БЕЛАРУСКІ ПАШПАРТ

Ёсьць калекцыянэры, якія зьбіраюць паштовыя й непаштовыя маркі, папяровыя й металёвыя грошы, значкі, паштоўкі, ардэна й медалі, латарэйныя квіткі, запалкавыя этыкеткі, этыкеткі піва й гарэлкі, "фанцікі" /абгорткі цукерак/, кішэнныя каляндарыкі, я, асабіста, зьбіраю ашчадныя кніжкі, кашалькі й скарбонкі,а ці ёсьць калекцыянеры пашпартоў?

Полымя Першай сусветнай вайны шугала на Беларусі. Гінулі жаўнеры, а найболш цывільныя беларусы.

У лютым 1915 года на гарадзеньскіх фартах загінуў мой дзед ""па мячу» - прапаршчык Восіп Вераціла. Пасьмяротна яго ўзнагародзілі ордэнам сьвятога Георгія чацьвёртай ступені. Раней ён ужо атрымаў Георгіеўскі медаль «За храбрасьць»...

Крок за крокам, горад за горадам аддавалі расейскія акупанты нямецкім акупантам нашу зямлю.Цікава, ці шкада было? Пад самы канец 1915 года Заходні фронт надоўга стабілізаваўся на лініі Дзьвінск - возера Нарач - Баранавічы - Пінск. Але ўжо 25 лютага 1918 г.немцы захапілі й Менск...

Новыя акупанты з зайздроснай пасьлядоўнасьцю абжывалі землі Беларусі, наводзячы ва ўсіх галінах гаспадаркі свой нямецкі парадак.

Як успамінала мая бабуля «па кудзелі» - нябошчыца Ганна Манцэвіч, немцы акуратна спаганялі з сялян ня толькі падаткі збожам, мясам, грашыма й сенам, але й увялі нават новы - «крапіўны падатак». Кожны селянін /ад старога да малога/ павінен быў здаць нямецкім уладам па снапку зжатай крапівы, якая багата буяла па загуменьнях заходніх беларускіх вёсак. А навошта яшчэ й крапіва? Аказваецца немцы, эканомячы лён, наладзілі вытворчасьць мяшэчнай тканіны з моцных крапіўных валаконцаў.

А каб ведаць колькі чакаць «мяшэчнай сыравіны», трэба было, як мінімум, падлічыць жыхароў й надаць усім пашпарты... Гэта,вядома, жарт, але й да гэтай справы яны падышлі з чыста нямецкай акуратнасьцю. Кожнаму акупаванаму народу аддрукавалі пашпарт на яго мове /у дадатак да нямецкай, вядома/. У пашпартах усе тэксты паралельна зроблены на дзьвух мовах. Так зьявіўся й першы беларускі пашпарт. На здымку №1 вы бачыце пашпарт, які выдалі немцы жыхару Ваўкавышчыны 29 студзеня 1917


Województwo Białostockie
Powiat Wołkowyski
Gmina ...
DOWÓD OSOBISTY
Ser. B. № 675266

Фота 2

Пашпарт надрукаваны чорнай фарбай на шэра-блакітнай тоўстай паперы з вадзяным малюнкам у выглядзе лускі, густой сеткі. Памеры мае: 86 х 150 мм і ўсяго чатыры аркуша /8 старонак/ разам з вокладкамі. На першай старонцы: герб Германская імперыі й надпіс «Пашпарт» на нямецкай і беларускай мове /лацінкай/. І усё гэта ў простакутнай роўнай рамцы. Пад левым ніжнім вуглом яе - маленькія лацінскія літары «Вр» - Вайсрутэніэн - Беларусь /на польскіх пашпартах стаіць літара "П" - Польшча/.

На другой старонцы: «Правілы.

1. Пашпарт трэба заўседы мець з сабою. У каго пашпарту ня будзе, або хто будзе мець пашпарт чужы, фальшывы, падроблены ці наагул благі, - таго карацъ імуць папраўчым астрогам да дзесяці гадоў, або пры аблегчаючых варунках турмой да 5 гадоў .

2. Пра згубу пашпарту трэба ў 24 гадзіны паведаміць урад, які яго выдаў.

Хто не паведаміць вышэй памянутага ўраду аб згубі пашпарту ў 24 гадзіны пасьля таго, як заўважыў згубу - таго караць імуць турмою да 5 гадоў, а пры аблегчаючых варунках - штрафам грашмі да 6000 марак.

3. У здарэньні сьмерці пашпарт праз тры дні павінен быць звернен таму ўраду, каторы яго выдаў.»

На трэцяй старонцы: «Нямецкая Адміністрацыя ў вокрузі Глаўнакамандуючаго на Усходзі.

1. Павет, 2. Нумар пашпарту [упісваўся ад рукі] , 3. Гдзе жыве, кватэра, 4. Імя і прозвішчэ, 5. Калі радзіўся, або чысло гадоў /болей меней/, 6. Гдзе радзіўся , Воласьць, Павет».

Чацьвёртая старонка:»7. Чым займаешча, 8. Вера,.Фотографіі. "Пятая старонка: «Прыметы асобы. 1. Узрост: м. см., 2. Відочныя шрамы, барадаўкі, прышчы, радзімые знакі, наскурные плямы, татуовання - с паказаньнем мейсца, гдзе яны ёсьць;

3. Водціск праваго паказнога пальца.»

Шостая старонка: «Гэтым завераешча, што уласьнік/ца/ пашпарту ёсьць асоба, паказаная на фотографіі.

Мейсцэ [Ваўкавыск] Чысло [29 студ. 1917]

Прадстаўнік мейсцовай уласьці, або 2 сьведкі:

Урад, каторы выдаў пашпарт.»

Сёмая старонка чыстая.

Восьмая старонка: германскі арол у выглядзе круглай пячаткі з нямецкім надпісам вакол.

Першы цалкам беларускі пашпарт /грамадзяніна БНР/ таксама быў надрукаваны ў Берліне. Вось як аб гэтым пішуць Л.Баршчэўскі й В.Мазец /«Народная воля», № 29-30, люты 1999 г./.

«У 1918 годзе ў славянскай друкарні Язэпа Галеўскага ў Берліне быў выпушчаны агульнаграмадзянскі пашпарт Беларускай Народнай Рэспублікі /АР Б АН Літвы, ф.21, опр: 3094, арк. 12/. Пашпарт складаўся з 12 старонак, на яго вокладцы была выява дзяржаўнага герба Беларускай Народ-

*Працяг на стар. 8*




Фота 1




Фота 3

*Пачатак на стар. 7*

най Рэспублікі - «Пагоні». У пашпарце адзначалася дата й месца нараджэння, подданства, асаблівыя прыкметы: колер валасоў і вачэй, рост. Пашпарт можна было выкарыстоўваць для паездкі за граніцу, тут меліся адмысловыя старонкі для таго, каб ставіць адзнакі аб уездзе і выездзе. Захаваліся пашпарты са светла-ружовымі й цёмна-сінімі вокладкамі. Афіцыйнныі ўрадавымі асобамі БНР выкарыстоўваліся таксама дыпламатычныя пашпарты. /.../

У снежні 1919 г. быў прыняты і Закон аб грамадзянстве Беларускай Народнай Рэспублікі, у якім адзін з пунктаў вызначаў, што двайное грамадзянства лічыцца «дзяржаўнай здрадай».

Нажаль гэтага пашпарта паказаць вам не магу, бо й сам яго яшчэ не бачыў. Затое можаце глянуць /здымак № "2/ на польскі пашпарт /Довуд ОСОБІСТЫ/, выданы 5 студзеня 1939 г., памеры яго 82 х 120 мм.

Ён нямае ніводнага беларускага слова.

На здымку №3 нямецкі пашпарт /Персональаўсвайс/, выданы 15 красавіка 1943 г. , мае толькі два беларускія словы на апошняй старонцы: «Важны да:» /кірыліцай/. Памеры яго: 84 х 121 мм.

Ну а «малаткасты й сярпасты...» вы ўсе бачылі й трымалі ў руках, а многія яшчэ й сёньня жывуць з ім. Пасьля абвяшчэньня незалежнай Беларусі, зьявіліся йзноў уласна беларускія пашпарты з гістарычнай «Пагоняй». Такі пашпарт пад нумарам адзін уручылі прэзідэнту А.Лукашэнку /можа з гэтага моманту ён і пачаў называць сябе першым беларускім прэзідэнтам?/. Але ён прэзідэнту, відаць, не спадабаўся, бо выдача пашпартоў з «Пагоняй» была хутка спынена, а герб заменены на другі. Праўда, далёка не лепшы. Аляксандр Фядута пра гэта пісаў летась так: «Герб сомнителен: дыра в форме Беларуси медленно опускается на земной шар. Флаг непонятен: в христианской стране полумусульманокое знамя...»

А вось вам урывачак з размовы карэспандэнта газэты «Народная воля» Ганны Соўсь з начальнікам пашпартнавізавай службы Маскоўскага РАУС горада Менска Уладзімірам Давыдавым:

«Г.С. - Ці многа людзей зараз карыстаюцца пашпартамі з гербам "Пагоня" ?

У.Д. - Гэтыя пашпарты яшчэ дзейсныя. Але толькі для ўнутранага карыстаньня. Іх засталося ня так і многа, таму што выдаваліся яны толькі паўгода. Лепей, вядома, перааформіць гэтыя пашпарты, пакуль не ўзнікла неабходнасьць выезду за мяжу.»

УВАГА, КАЛЕКЦЫЯНЕРЫ! Самымі рэдкімі беларускімі пашпартамі будуць хутка сучасныя нашыя пашпарты з гербам «Пагоня». Бо выдавалі іх толькі паўгода, выдалі недзе 120-150 тысяч асобнікаў. А колькі ўжо абмянялі на новыя «нацыянальныя беларускія» пашпарты?! Сьпяшайцеся.

\+ + +

Скончыў пісаць і усім нутром сваім адчуў, што канцоўка не атрымалася. Але колькі ні біўся над ёю, - выніку ніякага. Вымушаны быў адкласьці яе «на потым». А «потым» прыйшло з восьмым нумарам газэты «Наша слова».

Уладзімір Содаль.

ЧАЛАВЕК У ВЫШЫВАНЦЫ.

Я задумаў напісаць шэраг невялікіх абразкоў. Гэта будзе, на маю думку, найцікавае назіранне з жыцця нашых вышыванак і іх носьбітаў. Ужо маю цэлую падборку здымкаў людзей у вышыванках. І не абыякіх! І што цікава - у кожнай вышыванкі, гэтак жа, як і ў яе носьбіта, свая гісторыя, свой лёс. Вельмі часта непаўторны, кранальны. А адзін момант з Гісторыі вышыванак навёў мяне нават на думку крамольную.

Як вядома, у новых беларускіх пашпартах скасавана графа нацыянальнасць. Ну што ж, скасавалі дык скасавалі. Хай сабе скасоўваюць. А мы, калі гэтага вельмі захочам, можам яе і кампенсаваць. І што самае цікавае - без нейкай асаблівай патугі, без усялякага канфлікту з уладаю. А як? Якім чынам? А вось якраз здымачкам у вышыванцы. Калі кожны з нас прапануе ў свой новы пашпарт здымачак у вышыванцы, гэтым ён не толькі аздобіць згаданы дакумент сваёй падабізнай, але яшчэ нібы адновіць тую страчаную графу. Здымак у вышыванцы якраз усім скажа і пакажа, што ўладальнік гэтага пашпарта ніхто іншы як беларус.

Дык што: мо паспрабуем? Некаторыя ўжо гэта здагадаліся зрабіць. То можа ўсім узяць з іх прыклад? Толькі не марудзьма!»

\+ + + Згадзіцеся, лепшай канцоўкі й не прыдумаеш.

***Міхась Вераціла***




Замежны пашпарт СССР



№ 9

Урад Беларускай Народнай Рэспублікі,

**іменем Беларускага Народу,**

...

26-га кастр. 1920

25.X. 1921 г.

Дыпляматычны пашпарт Дзяржаўнага сакратара БНР К Дуж-Душэўскага (БДАМЛіМ.)





# Новыя грошы

У "Народнай волі", №171 ад 22 верасня 1998 года, я прачытаў артыкул: "Будзем разлічвацца купюрамі новага ўзору". Як калекцыянера, гэта інфармацыя мяне вельмі зацікавіла. Можа хто не чытаў, дык прапаную яго тут цалкам.

"Нацыянальны банк Беларусі ўводзіць у абарачэнне мадыфікаваныя разліковыя білеты вартасцю 1000 і 5000 рублёў узору 1998 года. Яны выраблены на белай паперы з ахоўнымі валокнамі чырвонага колеру і агульным вадзяным знакам, аналагічным па малюнку вадзяному знаку 100-рублёвай купюры. Колер і графічнае выкананне вонкавага боку гэтых разліковых білетаў максімальна набліжаны да ранейшых узораў.

Як паведамілі БелТА ва ўпраўленні інфармацыі Нацбанка, купюры вартасцю 1000 і 5000 рублёў узору 1998 года выпуску з'яўляюцца законным плацёжным сродкам Рэспублікі Беларусь. Яны абавязковыя для прыёму на тэрыторыі краіны ўсімі юрыдычнымі і фізічнымі асобамі па ўсіх відах плацяжоў, пераводаў, для залічэння на ўклады (дэпазіты), на разліковыя рахункі і бягучыя рахункі па іх наміннале.

Разліковыя білеты вартасцю 1000 і 5000 рублёў узору 1992 года выпуску застаюцца ў абарачэнні і па-ранейшаму з'яўляюцца законным плацежным сродкам.

БелТа"

Паведамленне насцярожыла мяне. Нешта тут не так, нейкі "падвох".

Пачаў аналізаваць. Паведамленне ад БелТа – значыць афіцыйнае і дакладнае. Афіцыйнае – несумненна, але дакладнасці – ніякай.

Па-першае, упамінаецца "графічнае выкананне вонкавага боку", а дзе адваротны бок? Чаму пра яго "ні слова"?

У нармальных, цывілізаваных людзей сьвету "вонкавы бок" – гэта той, дзе зьмешчана назва дзяржавы, дзяржаўны герб, афіцыйная назва "установы"; "адваротны бок" – гэта той, дзе даецца дадатковая інфармацыя.

З паведамлення вынікае, што захаваны малюнак "Пагоні" і надпіс "Разліковы білет Нацыянальнага банка Беларусі", а будынак Нацыянальнай Акадэміі навук, што на адваротным боку, - "знесены". Ой, нешта тут не так?! Каму мяшае Акадэмія? Хутчэй за ўсе памяшала "лукашэнкаўцам" "Пагоня".

Колькі ні думаў, так нічога і не зразумеў. Пачаў чакаць саміх купюраў. А з'явіліся яны ў Ваўкавыску толькі ў сярэдзіне кастрычніка 1998 года.

І вось 17 кастрычніка на кірмашы ў Ваўкавыску я атрымаў на здачу "новую" тысячу рублеў. Адразу адышоў у бок і пачаў уважліва разглядаць яе. Нічога, здаецца, не зьмянілася: і Акадэмія навук на месцы, і "Пагоня" на месцы, толькі паперка крыху большая і год – "1998". Але калі паглядзеў купюру на прасьвет, усе стала зразумелым – нехта дакдеіў у цэнтры картуша "Пагоню" і, здаецца, з "зайчыка".

Значыць апазіцыя не сьпіць. "Жыве Беларусь!"

...

Ой, сапраўды! Па верхняй арнаментальнай палосцы ( над "Пагоняй"), толькі цяпер, я заўважыў і надпіс на машынцы: "Жыве беларусь + Жыве Беларусь".

Рызыкоўна ўводзіць новыя грошы.

*Міхась Верацiла*

# КОЛЬКІ КАШТУЕ КІЛАГРАМ ГРОШАЙ ?

У якіх суадносінах знаходзяцца долар, фунт, і рубель?

За фунт рублёў даюць долар.

/ з гумару часоў СНД /.

Новыя, гладзенькія, хрумсткія "зайчыкі" я паклаў у сваю калекцыю адразу, як яны з'явіліся ў абарачэньні. Пасля доўга шукаў "самы першы нумар", і знаўшоў толькі АА 0087739. Таксама няблага - пяцізначны. Вядома, хацелася займець хоць *трохзначны*.

А вось мае запісы тых гадоў: " у Краснасельскім адразу з'явіліся 50 кап., 1 руб, 5 руб., 10 руб., "Бброў", "Ласеў" і " Мядзведзёў" нечаму няма, ды і "ваверак" /50 кап./ - мала...

На 1.10.1992 года "зайцы" /1 руб./ ... сустракаюцца ўжо з серыямі: АО, АП, АС, АТ, АУ і ББ, БГ, БЗ.

Канец кастрычніка / 1992 г./.З'явіліся "зубры" /100 р./, а "баброў" /3 руб./ - няма.

"Бабры" /3 р./ з'явіліся ў лістападзе...

1995.11.28 дня. Бачыў 20000 руб. з літарамі ў нумарах: А, Б, В, Г, Е, К, Л, М, Н, О, П, Р, У, Э...

Вось мы і падыйшлі да пытання: якія літары беларускага алфавіта выкарыстоўваліся ў нумарацыі беларускіх разліковых білетаў узору 1992 года?

Усяго іх адабралі дваццаць: А, Б, В, Г, Е,З, К, Л, М, Н, О, П, Р, С, Т, У, Х, Ч, Э, Я. І парадаксальнае тое, што ў гэты пералік не ўвайшла "беларуская літара "І" - усе рускія"! Вось вам яшчэ адзін доказ, што СССР яшчэ жывы, а ўлада ў руках партакратаў.

*Намінал* 50 капеек нумарамі не пазначаўся.

Самы распаўсюджаны намінал - 1 рубель /"заяц"/. Ужо ў самым пачатку 1995 года за даследванне "зайчыка" я ўзяўся грунтоўна. Матэрыялу ўжо хапала. Да гэтагу часу іх выпусцілі вялізарную колькасць - па ўсіх адабраных літарах: АА, АБ, АВ, АГ, АЕ, АЗ, АК, АЛ, АМ, АН, АО, АП, АР, АС, АТ, АУ, АХ, АЧ, АЭ, АЯ, а таксама БА, ББ, БГ, БЕ, БЗ, БК, БЛ, БМ, БМ, БН, БО, БП. Апошні нумар гэтай серыі ў маёй калекцыі: БП 9544327.

Пры жаданні /і дапамозе калькулятара/ можна вызначыць агульны тыраж білетаў у адзін рубель. Але навошта? Я такой мэты перад сабою не ставіў. Задача мая была адшукаць магчымыя памылкі і адмены асноўнага " эталоннага" варыянта. А што яны павінны быць - у гэтым я не сумняваўся. Іх жа рабілі людзі. а людзям уласьціва памыляцца. Праўда, я не думаў што ў такіх памерах!

Калекцыянеры ведаюць, што самай дакладнай, самай дасканалай серыяй банкнотаў нашага рэгіёна былі апошнія банкноты цара Мікалая Другога. І папера, і друк, і абаронныя "знакі" - усе было верхам дасканальнасці / мы пра гэта яшчэ пагаворым у апавядалнні "Кароль савецкіх фальшывманетчыкаў"/. Але нават у гэтай серыі былі лічаныя адмены: жаўтавая папера, перавернуты вадзяны знак і не толькі на 500 руб...

Кардакоў у сваім каталогу / 1953г./ пазначыў апошнюю адмену знакам RRR (гэта значыць, што адмена вядомая ў 4-2 асобніках). Праўда трэба адзначыць, што худчэй за ўсе гэтыя адмены зроблены не царскім урадам, а ўжо савецкім.

А што датычыць "Беларускіх разліковых білетаў узору 1992 года", дык гэта паўнейшая безгаспадарнасьць - "савецкая гаспадарнасьць"...

Але пакуль што мяне зацікавілі працэнтныя суадносіны ў абарачэнні серыяў "А" і "Б" "зайца". У адвольна ўзятай пачцы (100 білетаў у 1 рубель) аказалася: серыя "А" - 67%, серыя "Б" - 33%. У адвольнай кучцы "зайцоў" (200 асобнікаў) аказалася: серыя "А" - 66%, серыя "Б" - 34%. Але мне і гэтага паказалася замала. Тады я праглядзеў 10 пачкаў "зайцаў" у банкаўскай упакоўцы. У сярэднім рэзультат аказаўся такім: серыя "А" - 61.5%, серыя "Б" - 38.5%.

Цяпер разгледзім вадзяны знак - "філігрань". Гэта даволі складаная "пляценка", з якой можна вылучыць характэрную спрошчаную дэталь яе, падобную на вуглаватую лацінскую літару "S". Так яна выглядае, калі глянуць на купюру з боку малюнка зайца (адваротны бок).

Праглядаю серыю за серыяй, - усюды знак "S". І у серыі АА, АБ, АВ,... АК, АЛ... Ужо пачынаю захапляцца акуратнасцю маскоўскіх друкароў (бо менавіта ў Маскве друкаваліся беларускія рублі), і раптам збой: у серыі "АМ" (з 16 асобнікаў са знакам "S", а тры са знакам "Ƨ". І так да серыі "АУ". Суадносіны розныя: 5:1, 10:1, 20:1 і 2:1. Дык што: заступіла "пьяная зьмена"? Але з серыі "АУ" рублі са знакам "S" прападаюць зусім. Далей яны друкуюцца толькі на перавернутай паперы - ніводнага

*Працяг на стар. 10*

Пачатак на стар. 9

знака "S", толькі "Ƨ". Гэтак сама і серыі "Б", толькі тут не так "чыста": на 41 "Ƨ" - 1 "S" (серыя "БА"), на 29 "Ƨ" - 2 "S" (серыя БЕ), на 38 "Ƨ" - 1 "S" (серыя БЛ), на 39 "Ƨ" - 1 "S" (серыя БП).

Вось вам і рэдкія адмены "зайчыка".

У след сказанаму вышэй, трэба дадаць, што сярод "ваверак" (50 кап.) асобнікаў са знакам "Ƨ" сустракаецца прыблізна ў два разы меньш, чым са знакам "S". "Бабры" (3 руб.) сустракаюцца толькі з вадзяным знакам "Ƨ" і апошняя серыя ў іх - "АУ". "Рысі" (10 руб.) сустракаюцца толькі са знакам "S", апошняя літарная серыя ў іх - "АЛ". "Ласі" (25 руб.) таксама сустракаюцца толькі са знакам "S", апошняя серыя - "АН". І калі ва ўсіх вышэй пералічаных купюраў вадзяны знак вертыкальны, то у 5, 50, 100 рублеў - ен гаразынтальны, але таксама ў двух пазіцыях. "Ваўкі" (5 руб.) сустракаюцца толькі са знакам "∽" апошняя серыя - "АН" "Мядзьведзі" (50 рублёў) — у асноўным са знакам "∽", а са знакам "∽" рэдкія, апошняя серыя - "АВ". Дарэчы, і ў эмісіі расейскага цара Мікалая Другога 50-рублевыя купюры былі аддрукаваны меньшым тыражом. "Зубры" (100 руб.) - апошнія сярод "зьвярынай серыі" да апошняга свайго выпуску ("АЭ") утрымліваюць вадзяны знак " ". Яны дажылі да сенняшняга дня. Але яшчэ ў траўні 1998 года, калі ўжо ўсе стаміліся пералічваць тысячы "пустых паперак", і чакалі адыходу ў нябыт і "зуброў", - раптам адбыўся "радыяцыйны выкід" у абарачэнне вялізнай колькасці "зуброў" серыі "АЯ" - новенькіх, прыгожанькіх, але ўжо з перавернутым вадзяным знакам "∽".

Вось "такая селяві", як казаў Дзіма Падбярэзкі.

Так скончыліся мае даследванні адмен, а тады - у 1995 годдзе - я правеў яшчэ адно. Праглядаючы цэлымі пачкамі "зайцоў", я аднойчы узважыў пачку. Яна важыла 50 грамаў (49.9 гр.). Пяцьдзесят грамаў "зайцоў" вартыя 100 рублеў, а колькі будзе каштаваць 1 кг. "зайцоў"?

На 1 кг. "зайцоў" пайшло 20 пачак, што склала 2000 рублеў. Не багата! Калі купіць 1 кг. сьвініны, якая каштуе 20000 рублеў, дык трэба аддаць 200 пачкаў грошай - 10 кг. "зайцоў".

А калі "ваверак" - то цэлых 20 кг.; "баброў" - амаль 3.5 кг.; "ваўкоў" - толькі 2 кг. і толькі за 1кг. "рысеў" можна купіць 1 кг. сьвініны.

Гэта, напомню, было ў самым пачатку 1995 года, а ў самым пачатку 1999 года, калі той самы кілаграм сьвініны каштуе ўжо 29060 рублёў, то нават за кілаграм "зуброў" нельга сёньня купіць і аднаго кілаграма свініны.

Дык колькі каштуе кілаграм беларускіх грошай?

Прынамсі 1 кг. "зуброў" сёньня каштуе 66 цэнтаў.

P.S. Адзін чалавек не ў стане "ахапіць" увесь грашовы абарот краіны. Я зьвяртаюся да ўсіх беларускіх калекцыянераў: давайце зробім гэта агульнымі намаганьнямі. Магчыма і я нешта прапусьціў. Калі вам вядомы нейкія іншыя адмены беларускіх грошай, то паведамляйце ў "Беларускі калекцыянер", альбо на адрас аўтара:

***Міхась Вераціла***

Вул. Міру, 13,
г.п. Краснасельскі
Ваўкавыскага раёна,
Гродзенскай вобласьці,
231911.

# КРАЯВІДЫ БЕЛАРУСІ -
## пражскія беларускія паштоўкі.

У пражскі перыяд свайго жыцьця Ларыса Геніюш была ў самым віры грамадскага жыцьця беларускай дыяспары. Старажытны, прыгожы горад самым сэрцы Эўропы так спрыяў уздыму эмоцый! Тут, менавіта тут Францыск Скарына адбыўся як першы друкар усходніх славян, тут ён асьмеліўся перакласьці на «мужыцкую» мову Сьвятое Пісаньне.

Тут і Ларыса Антонаўна асьмелілася выдаць свой першы паэтычны зборнік «Ад родных ніў». Тут яна сталася як паэтка - «унучка Скарыны».

«Прагу я палюбіла, але кахала толькі маю Беларусь»,- напіша яна потым"

Дзякуючы такой атмасферы, і стала яна, напэўна, сакратаркай свайго земляка з-пад Зэльвы - Прэзідэнта Беларускай Народнай Рэспублікі - Васіля Захаркі /1877-1943/, і Сакратаром Урада БНР, а па тэстаменце В.Захаркі - Генеральным сакратаром Урада БНР, - і скарбнікам Пражскага філіяла «Беларускага камітэта самапомачы.»

Цяжка сёньня вызначыць увесь круг абавязкаў скарбніка самапо-мачы, але аб адным з іх сказала сама Ларыса Антонаўна.

«З чэскім выдавецтвам мы дагаварыліся выдаць беларускія паштоўкі. Гэта зрабіць вайною было цяжка, але зноў, як цуд, чэхі не ўмелі мне ў нечым адмовіць, так і ўбачылі сьвет 12 харошых відокаў нашай прыроды. Мы, усе славяне, моўчкі сябе падтрымоўвалі, затое ніколі не падтрымоўвалі выданьняў з пранямецкім зьместам.»

Вельмі не многія філакартысты маюць гэтыя паштоўкі. А хто й мае, дык не ведае да якога выдавецтва іх прылучыць? Колькі фатасюжэтаў Я.Булгака было скарыстана ў гэтай серыі? Які тыраж паштовак? Калі яны пабачылі сьвет? Нарэшце, якая арганізацыя заказала іх?

Чытачы «Беларускага калекцыянера» павінны памятаць зьмястоўны адказ сп. А.Траяноўскага /«Б.К.», № 7 за 1992 г./ на маё пытаньне, што сабой уяўляе «Невядомая беларуская марка» - марка «Беларускай народнай Самапомачы». Памятаеце? Бянтэжыла мяне толькі блытаніна:

«Беларускі камітэт самапомачы»,«Беларуская Народная Самапомач», проста «Беларуская самапомач».

Каб зразумець зьяўленьне пражскіх беларускіх паштовак прыйшлося спачатку разьбірацца з гэтымі «самапомачамі». І вось што я знайшоў.

«Увосень 1939 г. у Данцыгу адбылася канферэнцыя беларускіх эміграцкіх цэнтраў шэрагу капіталістычных краін. Прымалі ўдзел у ёй і прадстаўнікі пражскай эміграцыі - той жа Васіль Захарка, напрыклад. Гэтая канферэнцыя праходзіла пад кіраўніцтвам прадстаўніка міністэрства замежных спраў Германіі Мэндэ. На

Працяг на стар. 11





*Пачатак на стар. 10*

канферэнцыі было

створана так званае «Беларускае бюро даверу» +/ пры Міністэрстве ўнутраных спраў Германіі, а пры ім - «Беларускі камітэт самапомачы». Яго філіял утвараўся й у Празе.++) Кіраваць ім выбралі Ермачэнку, сакратаром - Бокача, а яе, Ларысу Геніюш,- скарбнікам... «Ніякай палітыкі ў Камітэце мы не праводзілі, ды не маглі праводзіць. Толькі дурань можа цьвердзіць, што немцы маглі дазволіць некаму нейкую палітыку. Усё зводзілася да цесных, акрэсьленых рамак Самапомачы,...а невялікую суму членскіх узносаў я проста аддавала пад распіску Бакачу, бо сапраўды ён ня меў з чаго жыць,»- піша Ларыса Геніюш. Так гэта ці не? Канечне, Ларыса Геніюш магла ўсяго і не ведаць, бо многае ж рабілася за яе спіною, у глыбокай таямніцы, сакрэтнасці. Ды і не абавязаны былі ёй, скарбніку, дакладваць, хто і што ў тыя дні і ночы рабіў.» /Барыс Сачанка «Лёс мой чалавечы», час. «Маладосць»,№ 1, 1990 г., стар. 136-139/.

Расказаць лепей, чым сп. Траяноўскі я не змагу і для тых, хто не чытаў адзначаны нумар «Б.К.» вымушаны буду цытаваць яго ледзь не цалкам..

«У 1941 годзе з часткі акупаванай немцамі Беларусі быў створаны Генералькамісарыят Беларусі, які складаўся з 10 паветаў /акругаў/ - Менскага, Барысаўскага, Слуцкага, Баранавіцкага, Глыбоцкага, Ганцавіцкага, Лідзскага, Навагрудзкага, Слонімскага, Вялейскага і места Менска. Генералькамісарам Беларусі быў прызначаны Вільгельм Кубэ.

У кастрычніку 1941 году Вільгельм Кубэ і дзеяч беларускай эміграцыі ў Празе Ян Ермачэнка выдалі адозву да беларускага насельніцтва. У ёй паведамлялі пра стварэнне Беларускае Народнае Самапомачы /БНС/ і заклікалі да згуртаваньня ў ейных шэрагах. Цэнтраля БНС знаходзілася ў Менску, у паветах і раёнах былі створаны аддзелы. Беларускай Народнай Самапомачы былі перададзены сродкі і маёмасьць Беларускага Чырвонага Крыжа, створанага ў ліпені 1941 г. у Менску.

Сябры БНС атрымлівалі білеты і павінны былі плаціць складкі, якія пацьвярджаліся наклейваньнем у білет маркі. Складка была 20 пфэнігаў / або 2 рублі па тагачаснаму курсу/. Маркі не мелі перфарацыі і клею.»

Дзеячы Беларускай Народнай Самапомачы імкнуліся скарыстаць легальнасьць арганізацыі каб дамагчыся незалежнасьці Беларусі, ці хоць аўтаноміі яе пад пратэктаратам Германіі,-беларускага войска, беларускіх газэт і часопісаў, беларускай мовы й культуры. Але такія захады нацыянальных дзеячоў акупантам не спадабаліся. Па распараджэньні нямецкіх уладаў ■ 18.3.1943 г. празьмерна кіпучая дзейнасьць БНС была абмежавана сферамі аховы здароўя і матэрыяльнай дапамогі насельніцтву, арганізацыя ў чэрвені 1943 г. рэарганізавана ў беларускую самапомач. Ян Ермачэнка быў зьняты з пасады кіраўніка БНС і высланы з тэрэнаў Беларусі з забаронай займацца палітычнай дзейнасьцю.

Адсюль вынікае, што ўсе тры «Самапомачы»-гэта назвы адной арганізацыі на розных этапах дзейнасьці. Адна арганізацыя, адзін кіраўнік /Ян Ермачэнка з 1939 па красавік 1943 г./, адзін беларускі народ. Лагічна будзе дапусьціць, што й для ўсёй Беларускай самапомачы /ад Менска да Прагі/ былі адзіныя маркі сяброўскіх складак. А раз былі адзіныя маркі, то іх павінна была наклейваць у білеты й скарбнік Пражскага філіялу Беларускай самапомачы - Ларыса Геніюш, а можа, нават, і заказваць іх друкаваньне.

У 1942 годзе ў Празе выходзіць зборнік вершаў Ларысы Геніюш «Ад родных ніў». А ў зборніку пазначана:«Выданьне Беларускага Камітэту Самапомачы ў Нямеччыне.»

Ці не тады й адбылася размова Ларысы Геніюш у чэскім выдавецтве й аб выданьні беларускіх «відокаў»? Усё магчыма. Ну, а калі й не ў той самы дзень, то й незадоўга пасьля выхаду яе зборніка вершаў. Што ў справе заказа паштовак Ларысе Антонаўне дапамагаў і будучы Прэзідэнт БНР Мікола Абрамчык можна здагадацца па тэксьце «Споведзі», а адбор фатаграфіяў яна зрабіла, відаць, сама. Ларыса Геніюш / як мінімум/ - «хросная маці» «Краявідаў Беларусі». Адбылося гэта ў 1942, ці ў першых месяцы 1943 года /да 14 сакавіка 1943 года/.

Пра дату выданьня паштовак сама Ларыса Антонаўна нічога не згадвае, а ў колькасьці «відокаў» крыху памылілася. Сёньня я трымаю у руках гэтую серыю.

Краявіды, краявіды, краявіды... Зрэдку /усяго толькі на шасьці паштоўках/ сярод прыроды прысутнічаюць элементы архітэктуры, але нідзе не відаць чалавека. Быццам вымерла ўсё жывое на Беларусі, быццам асірацела зямля без свайго працавітага гаспадара. Пустка.

Можа гэта не выпадкова? Можа вось праз такі алегарычны прыём хацелі паказаць выдаўцы паштовак гора роднай зямлі, гора землякоў, жах ваеннага ліхалецьця, акупаваную Бацькаўшчыну?!

На адной толькі паштоўцы па беразе возера Дрысьвяты паўзе абоз вазоў і людзі. Але й ён выклікае ў душэ нейкую трывогу - быццам абоз бежанцаў, вымушаны ваенным ліхалецьцем на роспачнае расстаньне. І, відаць, сьцішаная надзея на добрае - некалькі

постацяў рыбакоў на беразе Бацькі Нёмана ў Гародні. / паштоўка «Новы замак над Нёмнам»/.

Тры надпісы лацінкай мае кожная пражская паштоўка на адваротным баку. У левым верхнім рагу паштоўкі надпіс у тры радкі, на трох мовах / нямецкай, беларускай і французскай/ - назва сюжэту. У левым ніжнім рагу - «фота Булгак». Пасярэдзіне, вертыкальна: «Краявіды Беларусі» /таксама на трох мовах/. А вось пералік усіх вядомых сюжэтаў:

1. «Гасьцінец каля Беняконь»,
2. «Яр у Цімашкавічах»,
3. «Вяльля ў Крыжаках пад Вільняй»,
4. «Дарога ў Вілянаў пад Вільняй», 5. «Вяльля ў Каралінках пад Вільняй»,
6. «Берагі Вялейкі пад Вільняй»,
7. «Зялёнае возера ля Вільні»,
8. «Возера Дрысьвяты каля Браслаўя»,
9. «Царква ў Глыбокім»,
10. « Беразьвеч - Возера Глыбокае»,
11. «Двор у Наве ля Баранавіч»,
12. «Новы замак над Нёманам»,
13. « Краявід з Навагрудчыны»,
14. «Краявід ў Навагрудчыне /«ў» - так на паштоўцы/,
15. «Замкавы канал ў Несьвежы» /«ў» - так на паштоўцы/.

Пытаньняў паменьшала, але не на столькі, каб спыніць далейшыя пошукі.

+/ - Зьвестак пра «Беларускае бюро даверу» няма нават у «Энцыклапедыі Гісторыі Беларусі».

++/ - Акрамя Прагі, ф'іліялы «Беларускага камітэта самапомачы» былі ў Варшаве, Лодзі, Вене, Мюнхене, Берліне і інш. гарадах.

*Міхась Верацiла*



Гасьцінец каля Беняконь



Новы замак над Нёмнам

# МАНЭТНЫ ДВОР У ТЫКАЦІНЕ

Гісторыя гэтага невялікага гарадка ў памежжы Вялікага княства Літоўскага й зямлі Мазавецкай вельмі цесна зьвязана з гісторыяй

Беластока й Харошчы, а таксама з гістарычнымі лёсамі магнацкіх родаў Вясялоўскіх, Астрожскіх, Чарнецкіх, Патоцкіх, Браніцкіх, Панятоўскіх...

Прынамсі недзе ў другой палове XVI ст. Тыкацін быў падораны каралём магнату Весялоўскаму. Пётра Вясялоўскі быў адначасова старастай тыкацінскім і маршалкам вялікім каронным. А волей лёсу ў 70-ыя гады XX ст. усе мы пазнаёміліся з апошнім прадстаўнікам гэтага роду

- Кшыштафам Весялоўскім, які памёр у 1637 годзе.

У 1966 г. у склепе Благавешчанскага касьцёла Гарадзеньскага кляштара брыгідак былі знойдзены тры партрэты. Стан партрэтаў быў страшэнна благі, патрабавалася доўгая рэстаўрацыя. Але ўжо ў пачатку 70-тых гадоў рэпрадукцыі гэтых прыгожых палотнаў у стылі «сармацкага партрэта» невядомага аўтара абышлі старонкі шэрагу часопісаў і кніжак таго часу.

На адным - у поўны рост сам фундатар брыгіцкага кляштара Кшыштаф Весялоўскі,



Невядомы мастак партрэт Кшыштафа Весялоўскага Беларусь XVII ст.

маршалак ВКЛ. На другім - партрэт яго жонкі Аляксандры Марыяны з роду Сабескіх - ігуменьні гэтага кляштара, а на трэцім - прыёмная дачка Весялоўскіх - Грызельда Вадыньская /дачка ваяводы Падляшскага Мікалая і Софіі Сабескай, ваеводзянкі Любэльскай. У 1631 г. Грызельда выйшла замуж за Яна Сапегу, маршалка вялікага літоўскага. Шлюб адбыўся ў Горадні. Прысутнічаў апякун Грызельды

- Весялоўскі. Праз два гады, у красавіку 1633 г., Грызельда памерла. Ян Сапега памёр 10 красавіка 1635 г.

Калі яшчэ праз два гады выгасла мужчынская лінія магнацкага роду /у 1637 г./, Тыкацін, у шэрагу іншых добр Весялоўскіх, быў перададзены ў арэнду на 22 гады роду Астрожскіх. Затым у 1659 годзе кароль Ян II Казімір Ваза дорыць яго «пераможцу швэдаў» легендарнаму гетману вялікаму кароннаму Сьцяпану Чарнецкаму. А ўжо дачка Чарнецкага Аляксандра-Кацярына прыносіць яго ў пасагу Яну Клемансу Браніцкаму /Старэйшаму/ - маршалку надворнаму кароннаму. Але гэта ўжо далёка ад таго часу, што цікавіць нас.

Найвялікшая славутасьць Тыкаціна - замак, збудаваны яшчэ Жыгімонтам Аўгустам на востраве рэчкі Нерві. Добра абсталяваны й узброены, ён прыводзіў у захапленьне яшчэ сучасьнікаў. Так Гвагнін сьведчыць, што «замак тыкацінскі гарматамі й усялякімі стрэльбамі добра забясьпечаны».

Аб вялікай колькасьці асадных гарматаў з гэтага «забесьпячэньня» можна меркаваць па лічбах, узятых з інвентарных запісаў гэтага замка, складзеных у 1603 годзе. Уражвае колькасьць каменных ядраў да марціраў, званых «катамі» - 500 адзінак дыяметрам па 9.6 цаляў[1] і вагою па 40 фунтаў[2]. У той час, як да чатырох вялікіх гармат з уласнымі йменамі: «Жыгімонт», «Вітаўт», «Дзед» і «Баба»- ядраў каменных 49 дыяметрам па 16 цаляў і вагою па 140 фунтаў.

Другія гістарычныя крыніцы падаюць нават такую падрабязнасьць: крэпасьць тыкацінская даставіла свае вялікія гарматы для штурму Смаленска ў 1610 годзе. Марціры, прымацаваныя да драўляных ложаў, вязьлі на вайну на вялікіх дубовых вайсковых вазах, як, вядома, і каменныя ядра іх калібру. Асадныя марціры, зразумела, стралялі зь невялікай адлегласьці па мурах і вежах цытадэлі.

Пасьля пераможнай аблогі ўсе ядра клапатліва адшукалі, сабралі і, разам з марцірамі, адвезлі назад туды, адкуль яны былі ўзятыя на вайну.

Пазьней у замку быў абсталяваны найбагачшы ў краіне «цэкаўз» асаднай артылерыі.

Падчас швэцкай вайны замак у Тыкаціне быў узарваны й спалены швэдамі.

Ужо ў XIX ст. на руінах замка праводзіліся раскопкі. Багатыя знаходкі падцьвердзілі выключную ролю цытадэлі ў жыцьці Вялікага княства /і Рэчы Паспалітай так-



Невядомы мастак партрэт Грызельды Сапегі Беларусь XVII ст.

сама/. Так у рэчцы вакол замка адшукалі 120 ядраў ад вялікіх гармат. Яны амаль усе разышліся па музэях краіны. Чатыры вялікія былі паднятыя на мураваныя слупы агароджы могілак перад тыкацінскім касьцёлам. Некалькі ядраў трапілі ў прыватны музэй графа Эмэрыка Гутэн-Чапскага ў Станькаве.

Тут дарэчы будзе напомніць, што граф Чапскі - адзін зь вядомейшых нумізматаў Беларусі, Польшчы й Расеі. Нарадзіўся ён у 1828 годзе ў Станькаве пад Менскам. Вучыўся ў віленскай гімназіі, дзе яшчэ на школьнай лаўцы зь вялікім запалам пачаў зьбіраць манэты. Потым скончыў унівэрсытэт у Маскве, дзе й атрымаў ступень кандыдата прыродазнаўчых навук. Многа год пасьля працаваў на высокіх дзяржаўных пасадах царскай Расеі. У 60 год выйшаў на пенсію й асеў у сваім маёнтку Станькава.

Цяпер ён многа езьдзіць ўсёй Эўропе ў пошуках новых экспанатаў не толькі для сваёй нумізматычнай калекцыі, але й для калекцыі старадрукаў, карцін і йншых твораў мастацтва.

Актыўная калекцыянерская праца прывяла яго да навуковага асэнсаваньня сваіх ведаў. На працягу 20 год /1871-1691/ ён выдаў чатыры тамы свайго нумізматычнага каталога. Пяты том і апошні выйшаў толькі ў 1916 г., дваццаць год пасьля яго сьмерці. Зрабіла гэта ўдава яго Лізавета Гутэн-Чапская. Усё жыцьцё супрацоўнічаючы з му-жам, яна й цяпер сама выканала ўсе малюнкі манэт для йлюстрацыі каталога.

Збор свой Эмэрык Чапскі завяшчаў гміне горада Кракава, для гэтай мэты ён купіў у горадзе невялікі палац і перабудаваў яго пад музэй. Памёр Чапскі ў 1896 годзе, а за тыдзень да сьмерці пасьпеў яшчэ купіць апошнюю сваю манэту - бясцэнны дукат Уладзіслава Лакетка /лакатка/, які запісаны ў пятым томе яго каталога пад нумарам 10047. У год сьмерці яго сябры адчаканілі ў яго гонар сярэбраны медаль з партрэтам гэтага вялікага калекцыянера й грамадзяніна. А нашага земляка.

Ледзь не забыў! Можа каму з вас трапіць вочы манэта з калекцыі Эмэрыка Гутэн-Чапскага /ці мала што здараецца ў жыцьці/ дык каб не палічылі часам яе за пашкоджаную, скажу: Чапскі ўсе свае манэты пазначаў маленькім чаканам у выглядзе літары «С», у сярэдзіне якой зьмешчаны герб Чапскага - «Леліва» /зорка над паўмесяцам/. Велічыня яго крыху большая аднаго міліметра. Добра гэта, ці блага - можна доўга спорыць, але такая тады была мода. І не адзін Чапскі так рабіў.

Дапісаў да гэтага месца стала мне раптам мутарна й сумна.

Бедная Беларусь! Не магу ўстрымацца ад параделяў і параўнаньняў.

Эмэрык Гутэн-Чапскі ўсё жыцьцё зьбіраў за свае грошы калекцыю манэт. Назьбіраў 10047 манэт, потым узяў ды й падараваў усю калекцыю сваяму любімаму гораду /Кракаву/ і невядома нават за што ён яго любіў, жывучы ў Станькаве...

Ёсьць і сярод нас багатыя людзі - Новыя беларусы. А што яны зьбіраюць? Як што, вядома

*Працяг на стар. 13*

*Пачатак на стар. 12*

ж, - грошы /таксама калекцыянэры?/. Але калекцыянуюць яны: кватэры ў Менску, дачы /вакол Менску/, машыны /розныя/, дываны, жонак... А калі астаюцца грошы, дык ізноў: кватэры, машыны, дываны й жонак... А зусім не музэі, карцінныя галерэі, нават не асобныя карціны, асобныя манэты...

Сумна й маркотна...

Але вернемся ў сярэдзіну XVI ст. І запытаем самыя ў сябе / бо больш няма ў каго/ : супраць каго быў пабудаваны Жыгімонтам Аўгустам так багата ўзброены замак Тыкацінскі? Не скажаш жа, што супраць спрадвечных ворагаў - «маскавітаў»?

Другая славутасьць Тыкаціна - мураваная сінагога арыгінальнай архітэктуры, узнесеная ў 1642 годзе. Па прынцыпу будаваньня яна нагадвае мне беларускія абарончыя храмы ў Сынкавічах і Мураванцы. З боку ўваходу, на рагу, яна мае круглую вежачку - «сястра» ды й усё тут, толькі ўзростам малодшая. Недзе дзвацаці метраў вышыні - яна, жыхарам Тыкаціна, здавалася хмарачосам, бо ўзвышалася нават над драўляным касьцёлам і так ажно да 1740 г. , пакуль Ян Клеманс Браніцкі /Малодшы/ - кашталян кракаўскі, гетман вялікі каронны, апошні з роду Грыфітаў[3] не пабудаваў новы мураваны касьцёл.

А вось і трэцяя славутасьць Тыкаціна.

Для тых, хто цікавіцца ўзнагародамі /Фалерыстаў/ карысная, напэўна, будзе даведка, што ордэн «Белага Арла» - першы рэальны ордэн Рэчы Паспалітай, быў усталяваны Аўгустам II Моцным у Тыкаціне падчас яго сустрэчы там з рускім царом Пятром Першым у 1705 г.

Спачатку - гэта ордэн каралеўскага двара Рэчы Паспалітай, а пасьля 1831 г. быў далучаны да ардэноў Расеі.

У часы панаваньня апошняга караля Рэчы Паспалітай - Станіслава Аўгуста Панятоўскага /1764-1795/ ён сустракаецца амаль на ўсіх. вялікіх манэтах з партрэтам караля. А на некаторых - двойчы /на аверсе й рэверсе/.

Вось у гэтым невялічкім гарадку ў 1566 годзе Жыгімонт II Аўгуст адкрыў дадатковы манэтны двор ВКЛ - чацьвертую славутасьць Тыкаціна й яшчэ адну яго загадку.

Здаецца ўсё задумана й зроблена разумна: не працуе ніводзін манэтны двор Польшчы /яшчэ адна загадка апошняга Ягайлавіча - Ягелона/. Адзіны - Віленскі забяспечвае сваёй прадукцыяй усю Рэч Паспалітую. Цяжка яму? Вядома. Вось на дапамогу яму й адкрыўся тыкацінскі манэтны двор... /?/.

На ім і былі адчаканены паўгрошы й грошы ВКЛ новага малюнка. Ніжэй прыводзіцца малюнак і апісаньне паўгроша тыкацінскага - гэтага вельмі рэдкага помніка беларускай нумізматыкі з калекцыі аўтара.

Аверс: У цэнтры манэты, у кружку з кропак, вельмі неахайна выкананы герб Польшчы - «Белы Арол», вакол легенда, разьдзеленая стылізаванымі трохлістовымі разеткамі:

SIGIS • AVG • D • G • PEX • POLO • M • D • L •

Рэверс: У цэнтры манэты, у кружку з кропак, неахайна выкананы герб ВКЛ «Пагоня», пад канём - дата, разьдзеленая трохлістовай разеткай: «15 • 66». Вакол легенда, разьдзеленая стылізаванымі трохлістовымі разеткамі, а ўнізе, пад нагою вершніка, - герб «Ястрабок» Станіслава Мышкоўскага, ваяводы кракаўскага.

MONETA • MAGNI «Ястрабок» DVGAT • LITV • Дыяметр: 18,85-19,25 мм. вага: 1,162 гр. Срэбра.

Вядомы польскі нумізмат-дасьледчык Мар'ян Гумоўскі нагадвае пра дзесяць адменаў штэмпеля паўгроша літоўскага /беларускага/, дзьве адмены гроша па польскай манэтнай стапе і адзін штэмпель гроша па літоўскай /беларускай/ стапе.

Беларуская нумізматыка ўся на загадках, але загадка Тыкацінскага манэтнага двара - самая загадкавая:

1/ чаму Жыгімонт Аўгуст на сядзібу дадатковага манэтнага двара ВКЛ выбраў невялічкі гарадок на памежжы ВКЛ з Мазовіяй?

2/ чаму кіраўніцтва манэтным дваром было перададзена не падскарбію вялікаму літоўскаму /беларускаму/ Габрэлю Тарле герба «Сякера», а ваяводзе кракаўскаму Станіславу Мышкоўскаму герба «Ястрабок»?

3/ незразумелы й негаспадарны падыход да мерапрыемства, бо тыкацінская «мыньніца» была адкрыта й закрыта ў адным і тым жа - 1566 годзе.

Доўгі час знаходзячыся пад уплывам «сэпаратыстаў» Радзівілаў /падчас жаніцьбы на Барбары Радзівіл/, ці не збіраўся Жыгімонт Аўгуст ваяваць Польшчу? Ці хоць папалохаць? Адпомсьціць за Барбару?

За ўсе інтрыгі супраць яго? Проста аддзяліць Вялікае княства Літоўскае ад несумленна агрэсіўнай суседкі?

Загадкі, пытаньні, сумненьні, - якія раптам скончацца Уніяй 1569 года.

(1) - «цаля» - мера даўжыні. У ВКЛ карысталіся цаляй, роўнай 2,7 см.

(2) - «фунт» - мера масы. у ВКЛ мяняўся ад 360 да 460 грамаў.

З 1766 года - роўны 374,8288 грама.

(3) - Герб роду Браніцкіх - «Грыф», таму їх часта называлі Браніцкія-Грыфіты.

***Міхась Вераціла***




Жыгімонт II Аўгуст. Паўгрош тыкацінскі, 1566 г.

# «Пенязь» - Чэх ці Паляк?

Сёньня ўжо цяжка будзе вызначыць, хто ўпершыню вывёў «пенязь» ад польскага «пенёндзэ» /pieniadze - грошы/, але менавіта мне выпадае асьпрэчваць гэтую недарэчнасьць, бо ўжо заўтра знойдзецца нехта з «паляфілаў», хто будзе выводзіць і «хлеб», і «хату», і «маму» з та-го ж самага польскага.

Старажытныя /XIV ст./ беларускія словы «пенязь», «пенязі» утварыліся ад чэшскіх слоў «пэніз» /peníz - манэта, penízek - манэтка, penize - грошы/. І называліся яны ўсе адпаведна зьместу й назову ў адзіночным і множным ліках. Якраз і польскае «пенёндзэ» таксама ўтварылася ад гэтага ж чэшскага - «пэнізэ».

Адштурхнуўшыся ад польскага «пенёндзэ», укладальнікі каштоўнага беларускага выданьня «Археалогія і нумізматыка Беларусі»[1] зусім лагічна прыйшлі толькі да множнага ліку гэтага тэрміна /стар. 493/1/; а ў дадатак яшчэ й з памылкай: «pieniadzy» замест «pieniadze» зусім адмовіўшы права «пенязю» на яго гістарычнае йснаваньне.

Гэтак сама паступіў і В.Зварыч.[2] І ён выводзіць «пеняз» ад польскага «пенёндзэ» /стар. 129/, дарэчы, сам сабе пярэчачы, бо ў другім месцы /стар. 23/ ён піша: «При этом белыми пенязами чехи считали денарии, лучшего качества...» Дык усё ж такі першымі «чэхі лічылі», а не палякі - яны ўжо потым пачалі «лічыць».

Атрымліваецца, як у выпадку з назвай «Амерыка». Амерыку адкрыў /хай сабе й не ведаючы пра гэта/ Хрыстафор Калумб, а кантынент назвалі ў гонар Амерыго Веспучы. А назваць трэба было - ці «Хрыстафорыя», ці «Калумбія». А так атрымалася: лаўры таму, хто плёўся ззадзі, а пінеру, адкрывальніку - маленькая краіна, правінцыя Паўднёвай, ізноў жа, «Амерыкі».

«Вось такая селяві».

(1)«Археалогія і нумізматыка Беларусі», энцыклапедыя, Мінск, 1993г. Тых, хто часта карыстаецца гэтым выданьнем хачу папярэдзіць: будзьце вельмі ўважлівымі - выданьне літаральна напічкана памылкамі [і нават «Вялікіх»: стар. 18/2 - «У Чэхіі каля 1300 пачалася эмісія гроша польскага, які хутка стаў міжнароднай манетай...» /а можа «гроша пражскага»?/; стар. 16/3 - «...тры грошы, шастак...» /а дзе падзеўся «чатырохгрошавік - 4 грошы», потым «орт - чвэрцьталера»?/ і гэтак далей]

(2)В.В.Зварыч «Нумизматический словарь», Львов, 1960 г.

***Міхась Вераціла***

# Ён вярнуў свае грошы з ліхвою

Цяжка, напэўна, знайсьці чалавека, які ніразу за сваё жыцьцё не пазычыў ні ў каго грошай. І наогул цяжка паверыць і ўявіць сабе, што такія людзі ёсьць. А ўсё таму, што ўсе мы пазычалі, пазычаем, і будзем пазычаць /пакуль будуць даваць/, бо немагчыма ўсё пралічыць наперад і прадугадаць. А ўсё таму, што нашыя магчымасьці заўсёды адстаюць ад нашых патрэбаў. Ад нашага - «хачу!»

Калі «хацель» невялікі, дык выручыць і сусед. А калі спатрэбіцца многа грошай, - тут без ліхвяра не абыйсьціся. А ліхвяр на тое й «ліхвяр», што хоча атрымаць свае грошы назад з «ліхвою», гэта значыць, з працэнтамі.

Ліхвярства - гэта своеасаблівае рамяство, што знаходзіцца ў сваячэнстве са спекуляцыяй і жыве сярод людзей са старажытных часоў, прынамсі, з тых, калі людзі прыдумалі грошы.

У нашым краі гэтым рамяством займаліся звычайна габрэі. Былі, вядома, і хрысьціяне, але ў меншай колькасьці, а ўсе таму, што ў гэтую справу пачала ўмешвацца царква. Не дзеля таго, каб самой атрымліваць грошы «з ліхвою», а з мэтай гуманнай, з мэтай выкараненьня брыдкіх памкненьняў жыць за чужы кошт. Даходзіла да. таго, што хрысьціянінаіхвяра адлучалі ад царквы, а калі ён паміраў - забаранялі хаваць яго на агульных могілках /як і самагубцаў/. а габрэі былі другой веры, другіх законаў, а таму неяк быццам «па за грамадствам». Дык хай яны й прадаюць сваю душу сатане - не шкада.

Але калі царква адмежавалася ад габрэяў-ліхвяроў, дык цывільныя ўлады несамавіта зайздросьцілі чужым прыбыткам. Так у Польшчы кароль Казімір Вялікі /1333-1370/ забараніў браць ліхвы больш, чым паўгроша з грыўны ў тыдзень. Але й такая ліхва складала амаль 50% у год.

Ліхва неабавязкова ўзрастала толькі на пазычаных сумах наяўных грошай. Наданая каралём і вялікім князем дзяржаўная пасада таксама аддзячвалася грашыма або іншымі дарамі. Гэта сярод сучаснікаў называлася «мамонай».

Дзеля прыклада можна прывесьці такі выпадак 30 лістапада 1635 года ў каралеўскім палацы Уладзіслава IV адбылася цырымонія аддачы вялікай пячаткі канцлерства каронната /польскага/ падканцлеру /трымальніку малой пячаткі/ Замойскаму. «Замойскі, працягваючы рукі, наблізіўся да каралеўскіх рук, каб забраць дар, абняў ногі караля ў доказ удзячнасьці, вярнуўшыся аж на месца, са звыклым красамоўствам, прынёс найвышэйшыя падзякі Богу і каралю. Зноў набліжаючыся да караля, аддаў у яго рукі меншую пячаць, не прамарудзіўшы з цырыманіяльным пацалункам, і такімі словамі засьведчыў удзячнасьць за ўзнагароду: «Добра пазычаць пану на ліхву». Цяпер усім стала бачная узаемная радасьць караля і ушанаванага грамадзяніна, «- піша канцлер ВКЛ Альбрыхт Станіслаў Радзівіл. Багатыя гданьскія й іншыя «нямецкія» купцы пазычалі грошы беларускай шляхце пад 10%. Кароль Жыгімонт II Аўгуст /1548-1572/ зьменшыў працэнты да васьмі, а Станіслаў Аўгуст Панятоўскі ў 1775 годзе - да 5%.

Здаецца, за такі мізер не варта нават рызыкаваць, вынімаючы грошы з кішэні. Але-ж, не, ліхвярства жыве й сёньня і прыватнае і банкірскае і нават дзяржаўнае і пад які хочаш працэнт. Час, праўда, не той, бо нават вялікая ліхва праз тыдзеньператвараецца ў нішто і ўжо не зразумець:«Ці ўзяў з ліхвою». «ці даў з ліхвою.» Тэатр абсурду.

*Міхась Верацiла*



*Міхась Верацiла*

# Гадавіна здачы ў палон.

Дарагія суайчыньнікі! Сьпяшаюся падзяліцца з вамі сваім філатэлістычным адкрыцьцём. Аказваецца, у мінулым годзе мы адсьвяткавалі «55 гадоў з дня» здачы Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў у палон да рускіх Саветаў».

Не верыце? То паглядзіце на дакумент-канверт, які выпусьціла «Рэспубліканскае дзяржаўнае аб'яднанне «Белпошта», 1999 г. Мастак У.Сытчанка. Выраблена Папяровай фабрыкай Дзяржзнака Беларусі з 5120.» Сюжэт канверта такі: па самым нізе малюнка тры чырвоныя гвазьдзікі, першвітыя чорна-рыжай «гвардзейскай» /ордэна сьвятога Георгія/ стужкай. Вышэй, на фоне будынка Дома Ўраду ў Менску, тры мужчынскія постаці з узьнятым над галовамі белым сьцягам.

Над малюнкам тэкст: «55 гадоў з дня вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.» Але якое можа быць вызваленьне пад белым сьцягам?

«Здаюцца ў палон»,- гэта зразумела нават кожнаму школьніку.

*Міхась Верацiла*



# Нос з акулярамі

Калекцыянэрам грошай я стаў недзе ў пачатку 1948 года, калі прадаў паламаны «браўнінг» за кучу грошай. Тут былі нікелевыя й медныя польскія грошы, алюмініевыя й цынкавыя фенігі, даваенныя папяровыя злоты, акупацыйныя й рэйхс-маркі, царскія рублі й «Кацярынкі», і нават зусім нядаўна адмененыя цёмнашэрыя «жалобныя» чырвонцы... Частка гэтага дабра паклала пачатак маёй калекцыі, другая - пайшла на абмен. Хутка зьявілася й літаратура, тыпа: М.Т.Теоринъ « Элементарный курсъ коммерческихъ вычислений и терминологии съ задачами и отвътами», Масква, 1914 г... Дзякуючы ёй, я ў свае 10 з нямногім год ведаў што такое тройская ўнцыя, фунт, квінтал, пуд, бушэль і інш). «У твар» ведаў франкі, маркі, гульдэны, кроны й рублі канца XIX - пачатку XX ст.ст. Мог запоўніць вэксель, ведаў што такое аблігацыя, акцыя, дывідэнды... А царскія крэдытныя білеты пачаў зьбіраць па подпісах касіраў і нумарах серыі ...

Пачатак майго калекцыянэрства быў вельмі самавіты. І час для гэтага быў спрыяльны. У людзей на руках «былых грошай» было больш, чым сучасных у сотні разоў. Сярэбраныя царскія рублі ўжываліся намі ў якасьці «біты» пры гульні ў грошы. А «нумізматам» быў кожны другі падшыванец, але ці надоўга. Толькі ў ва мне гэты «вірус» прыжыўся назаўжды.

У самым пачатку XV ст. , на працягу 50 гадоў, у Вялікім Княстве Разанскім чаканілася «дзенга» з так званай «разанскай княжацкай тамгой». Яна ўяўляла сабой нешта накшталт «носа з акулярамі». /Такая тамга, здаецца, была й на скураных грошах пазьнейшых стагодзьдзяў - жэрабеях /Жеребья/.

Гэтым знакам разанцы нават надчаканьвалі татарскія манэты, ператвараючы іх у свой плацёжны сродак.

Я зьвярнуў увагу на падабенства тамгі да літар алфавіта яшчэ 20 год таму назад. У красавіку 1977 года я з задавальненьнем «асвойваў» глаголіцу, Тэксты мне даслалі з Закарпацкай Украіны.

«Глаголіца» - старажытная славянская азбука. Як лічаць некаторыя вучоныя , створана ў IX стагодзьдзі славянскім філосафам і асьветнікам Канстанцінам Філосафам. Папярэднічала кірыліцы. Пасьля распаўсюджваньня апошняй, уступіла ёй месца. У глаголіцы вельмі складаны малюнак літар. Некаторыя з іх ужываліся й у якасьці лічбаў.

Тады, 10 красавіка 1977 года мяне вельмі ўразіла падабенства «разанскай тамгі» на глаголічныя літары: калі «носам» уніз - гэта «В», калі «носам» уверх - «Д». Можа яны азначаюць пачатковую літару Імя князя, які чаканіў манэты, падумаў я. Пачаў выпісваць усіх князёў гэтага перыяду. Алег Іванавіч /да 1402 г./, Фёдар Алегавіч /1402-1427/, Іван Фёдаравіч /1427-1456/. Атрымаліся: «О-Ф-И». Нічога падобнага. І наогул нешта не так: князі мяняюцца, а знак застаецца той самы. Далей, ажно да 1462 года, разанскую манэту пачаў чаканіць маскоўскі князь Васіль Цёмны. Васіль - «В», нібыта падыходзіць, але ж ужо запозна. Гэтая думка не падьвердзілася.



Ⰲ-В-3

Ⰴ-Д-5

А можа гэта лічба?

Глядзім. «В» - гэта «3», а «Д» - гэта «5». Так ...

У гэты час на Русі існаваў амаль адзіны толькі намінал - «дзенга». Дзенгу лічылі на алтыны, рублі, грыўны. «Алты» - па-татарскі «шэсьць». Алтын - шэсьць «дзенгаў». Не, зноў не атрымліваецца ...

Да зьяўленьня «дзенгі», на Русі лічылі на «морткі». Магчыма тамга паказвае, што разанская дзенга ўтрымлівае ў сабе «В», ці «Д» тых прывычных «морткаў»? А можа наогул яна - гэта таямнічая «разана» /резана/? А назва яе пайшла не ад дзеяслова «рэзаць», а ад назвы сталіцы княства - «Разані»?..

Мая буйная фантазія малявала вобразы.

Сёньня я цалкам упэўнены, што менавіта на такім эмацыянальным уздыме й нараджаліся навуковыя тэорыі, законы, рабіліся глабальныя адкрыцьці.

Сумняваецеся?

А чым, скажыце тады , мая тэорыя горшая за тую, што цьвердзіць паходжаньне назвы меднай манэты «пуло» / пул/ ад візантыйскага слова «фолліс» / follis - мяшочак/? Ці слова «дзенга» - ад татарскага «ценга» /таньга/ і нават «дырхем»? Альбо: «капейка» - ад выявы вершніка з капьём? А мне здаецца, што больш верагодна такая чародка: «капа» /лічыльная/ - «капейка», а потым дайшо й да «копить» /зьбіраць, назапашваць/, «накопление» ...

І ўвогуле: знаходзіць толькі той, хто шукае!

*Міхась Вераціла*

# ЦІКАВА ВЕДАЦЬ...... .РЭКОРДЫ ГІНЭСА...... .САМАЕ- САМАЕ ......

<u>САМЫЯ СТАРАЖЫТНЫЯ</u> самыя старажытныя манэты ў сьвеце - стацеры з электрума цара Гігеса з Лідзіі, Турцыя, каля 670 г. да н.э.

Кітайскія грошы без надпісаў дынастыі Чжоу, датуюцца каля 770 года да н.э.

<u>САМАЯ РАНЬНЯЯ ДАЦІРОЎКА</u> Самоская сярэбраная тэтрадрахма, чаканеная ў Занклі /цяпер Месіна/, Сіцылія , датавана 1 г., альбо 495 г. да н.э.

<u>ЭРА ХРЫСЬЦІЯНСТВА</u> Манэты біскупа Роскільскага, датаваны 1234 г., Данія /вядомыя 6 манэт/.

<u>САМЫЯ ЦЯЖКІЯ</u> Самая цяжкая манэта ў сьвеце - швецкая медная пласціна /кліпа/ вартасьцю ў 10 далераў 1664 г., вагою ў 19,71 кг.

Самы вялікі медальён у выглядзе манэты быў зроблены 21 сакавіка 1986 г. з золата для Сусьветнай выставы «Экспо-66» У Ванкуверы, Канада, - вартасьцю ў 1 мільён даляраў. Яго памеры: дыяметр 95,25 см., таўшчыня 19,05 мм., вага 166 кг.

<u>САМЫЯ ЛЁГКІЯ Й САМЫЯ МАЛЕНЬКІЯ</u> Самая маленькая й самая лёгкая манэта ў сьвеце - непальская /Непал/ сярэбраная манэта вартасьцю ў 1/4 джавы, выпуска каля 1740 г., вагою ў 0,002 г.

<u>САМЫЯ ДАРАГІЯ</u> Самыя дарагія манэты ў сьвеце - камплект манэт ЗША выпуска 1804 г. , коштам у 1 млн. даляраў / уключае рэдкі сярэбраны долар/ - былі падараны ў 1979 г. каралю Гішпаніі дылерам Лестэрам Мэркінам.

<u>САМЫЯ РЭДКІЯ</u> Вядома многа «адзіных у сваім родзе» манэт, напрыклад, аксумская залатая манэта Вазеба, захоўваецца ў нацыянальнай бібліятэцы, Парыж, Францыя, альбо аксумскі паўтрэмісіс /250 г. да н.э./, які належыць д-ру Бенту Джуэл-Йенсену з Аксфорду.

<u>БУЙНЕЙШЫЯ СКАРБЫ</u> Буйнейшым лічыцца скарб з 80 тысяч залатых манэт, знойдзены ў 1714 г. у Брэшэло паблізу Модэны, Італія, як мяркуюць схаваны каля 37 г. да н.э. Па колькасьці манэт буйнейшым з калі кольвек знойдзеных быў брусельскі скарб 1908 г. , які складаўся з каля 150 тыс. манэт. 20 ліпеня 1965 г. двума сынамі Мэла Фішэра быў знойдзены гішпанскі гандлёвы карабель «Нуэстра сеньёра дэ аточа», які затануў у 1622 г. паблізу КІ-Уэста, штат Фларыда, ЗША. Паднялі груз, у асноўным срэбра ў злітках, быў ацэнены ў 80 млн. даляраў, але цяпер чакаецца, што яго агульная цана дасягне 400 млн. даляраў.

<u>СССР</u> Залаты злітак вагою ў 12 кг. 285,3 г. знайшоў у баразьне падчас палявых работ летам 1967 г. механізатар калгаса Імя Леніна Амурскай вобласьці Мікалай Віктаравіч Васіленка. У банку гэты стандартны залаты брусок, адліты ў 1918 г. быў ацэнены ў 588 тыс. рублёў, М.В.Васіленка атрымаў за сваю знаходку самую буйную ў СССР суму 147 тыс. рублёў -

*Працяг на стар. 16*

*Пачатак на стар. 15*

прадугледжаныя законам 25% ад ацэначнага кошту скарба.

САМЫ ВЯЛІКІ МАНЭТНЫ ДВОР Самым вялікім у сьвеце зьяўляецца манэтны двор казначэйства ЗША, пабудаваны ў 1965-1969 гг. на Індэпэндэнс-Мол, штат Філадэльфія, які займае тэрыторыю ў 4,65 га. Пры 7-дзённым рабочым тыдні й працы ў тры зьмены, яго гадавая вытворчасьць дасягае 16 млрд. манэт. Вытворчасьць адной машыны па чаканцы манэт складае 40 тыс. манэт у гадзіну.

**ПАПЯРОВЫЯ ГРОШЫ**

САМЫЯ ПЕРШЫЯ Папяровыя грошы ўпершыню пачалі друкавацца ў Кітаі ў 812 г. н.э. і атрымалі распаўсюджаньне каля 970 г. н.э.

Самыя першыя ў сьвеце банкноты /банкоседлер/ былі выпушчаны ў Стакгольме, Швэцыя, у ліпені 1661 г., з якіх самай старой захаваўшайся банкнотай зьяўляецца банкнота ў пяць далераў, датаваная 6 сьнежня 1662 г.

САМЫЯ ВЯЛІКІЯ Й САМЫЯ МАЛЕНЬКІЯ Самы вялікі памер з калі кольвек выпушчаных папяровых грошай мае банкнота ў адзін квань, выпускалася ў 1368-1899 гг. кітайскай дынастыяй Мін, памеры яе 22,8 х 33см. У кастрычніку 1983 г. адну такую банкноту прадалі за 340 ф. ст.

Самы маленькі памер сярод калі кольвек выпушчаных нацыянальных банкнот мела банкнота вартасьцю ў 10 баняў, выпушчаная міністэрствам фінансаў Румыніі ў 1917 г. Плошча друкарскага адбітку на ёй складае 27,5 х 38 мм.

З выпушчаных у час інфляцыі ў Германіі ў 1920-1921 гг. грошай, самы малы памер мелі банкноты вартасьцю ў 1-3 пфэнігі - 18 х 18 ,5 мм.

БАНКНОТА САМАЙ ВЫСОКАЙ ВАРТАСЬЦІ Самую высокую вартасьць, з тых, што знаходзяцца у абарачэньні, маюць банкноты фэдэральнага рэзэрвовага банка ЗША - 10 тысяч даляраў. На іх выява Сэмона Партленда Чэйза, заснавальніка банка «Чэйз Матхатан бэнк», /1808-1873/. У ліпені 1944 г. выпуск гэтых банкнотаў скончаны. У 1969 г. казначэйствам ЗША аб'яўлена аб спыненьні далейшай эмісіі банкнотаў вартасьцю звыш 100 долараў. На сеньняшні час у абарачэньні засталося ўсяго 348 банкнотаў вартасьцю ў 10 тысяч даляраў.

У Вялікабрытаніі захаваліся дзьве банкноты англійскага банка вартасьцю ў 1 млн. ф.ст., выпушчаныя да 1812 г./аднак яны выкарыстоўваліся толькі ва ўнутраных разьліках. У лістападзе 1979 г. стала вядома пра йснаваньне купюры ў 1 млн. ф.ст., якую выпусьціла казначэйства 30 жніўня 1948 г., яна па асабістаму ўзгаданьню была прададзена ў Аўстралію за 18500 аўстралійскіх даляраў.

*«Книга рекордов Гиннесса», 1991 г., «Прогресс».*
*Выбраў і пераклаў на беларускую мову Міхась Вераціла*

## Аб`явы

Набуду кніжкі па гісторыі Беларусі; боны, латарэйныя квіткі, аблігацыі, чэкі, векселі, што абарачаліся на Беларусі, беларускія маркі і іншае. Маю абменны фонд. Адрас: Міхась Верацiла, вул. Міру, д. 13, г.п. Красносельскі, Ваўкавыскі р-н, Гродзенская вобл. 231911

Шукаю паштовыя маркі БНР, пошту беларускага замежжа, лісты і маркі Сярэдняй Літвы, Генерал-губернатарства (Польшчу 1939 – 1941 г.г.) і іншае зьвязанае з поштай на Беларусі да канца 2-й сусветнай вайны. 230003 Гародня-3 п/с 110 Андрусь Мялешка (адкажу на ўсе лісты).

Календарык фірмы SOTVAR




Прадаю маркі БНР: сэрыю з 4 марак, якая прысвечана 40-ым угодкам Слуцкага збройнага чыну (1960 г.), і сэрыю з 2 марак да 450-ых угодкаў друку ў Беларусі (1976 г.), кошт разам з дасылкай сума ў беларускіх рублях эквівалентная 1$ і 0,5$ адпаведна. Алесь Сабаленка, п/с 268, 220131, Менск.

Шаноўныя сябры! У Менску апошні нумар газэты «Беларускі калекцыянер» заўжды можна набыць у сядзібе Таварыства Беларускай Мовы імя Ф. Скарыны: вул. Румянцава,13 ці ў управе Беларускага Народнага Фронта: вул. Варвашэні, 8. Аб`явы чытачоў па тэматыцы беларускага калекцыянаваньня друкуюцца задарма.

Калекцыянірую латарэйныя квіткі, праездныя талоны і тэлефонныя карткі Беларусі.
Віктар Сувораў, вул. Нікіфарава, д. 17, кв. 349 г. Менск, 220141

Далучайцеся да Вайскова-геральдычнай працы ТБМ













**Календарыкі на 2000 год**

Газета
"Беларускі Калекцыянер"
Год заснавання 1990
Рэдактар: Алесь Сяроўкін
Рэдакцыйная калегія:
Юрый Санько, Алег Граблеўскі.
Вёрстка: Зміцер Шарамет

Пры перадруку спасылацца на "Беларускі Калекцыянер". Рукапісаў рэдакцыя не вяртае й не рэцэнзуе. Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі. Газета выдаецца з дапамогай Цэнтра Філоны Кміты. Падпісана ў друк 27.02.2000г.

Адрас для дапісаў:
Сяроўкін А.М.
211030,
Орша-9, п/с 46, Беларусь.
Наклад 299 асобнікаў.